Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Маладзечна
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

4 красавіка 2014 года №14 (988)

**Слухаўкі ў маладосці – слыхавы апарат у старасці**
Як выбіраць слухаўкі і зберагчы свае вушы?
старонка 21



**Як спыніць аварыі каля "Бярозкі"**
Перакрыжаванне могуць удасканаліць: дастаткова дарожнай стрэлкі на святлафоры.
старонка 4

**Краснае: дзе спалілі людзей, садзяць бульбу** с. 20

**Што змянілася з павышэннем кошту білетаў на транспарт** с. 2

**Жыхары вёскі Асіпавічы на Вілейшчыне дамагліся, каб смецце ў іх прыбралі** с. 3

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Улада абяцае грошы футбалістам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каманда "Маладзечна-2013" прыме ўдзел у другой лізе чэмпіяната краіны. Пра гэта паведаміў дырэктар каманды **Аляксандр Любанец:** "1 красавіка на пасяджэнні ў райвыканкаме ў прысутнасці старшыні **Аляксандра Яхнаўца**, начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Іны Драпезы**, намесніка старшыні райвыканкама **Генадзя Актанаровіча** прагучала: футболу ў Маладзечне быць!" Аляксандр Любанец паведаміў, што цяпер асноўная праца кіраўніцтва будзе накіраваная на тое, каб сабраць каманду. Мяркуецца, што з мінулага сезона застануцца футбалісты **Юры Бугай, Андрэй Шаблінскі**. Аднак ва ўсёй гэтай эйфарыі ёсць лыжка дзёгцю: падтрымліваць каманду будуць толькі цягам гэтага года. "Пра перспектыву развіцця каманды гаворка не ішла. Але без дапамогі мясцовай школы нам будзе цяжка", – кажа дырэктар клуба.

### Краў з будоўлі АЭС

**АСТРАВЕЦ.** Машыніст аўтабетоннай помпы аднаго з прадпрыемстваў, на якім вядуць работы на стартавай пляцоўцы АЭС, хацеў скрасці каля 250 літраў саляркі, паведамляе БелаПАН. Супрацоўнікі службы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Астравецкага РАУС прадухілілі крадзеж дызпаліва. Па інфармацыі старшага оперупаўнаважанага БЭЗ Астравецкага РАУС **Аляксея Доўляша**, цягам сакавіка падазраваны эканоміў крыху больш за 250 літраў дызпаліва. Ён зліў яго ў каністры і вывез за тэрыторыю будоўлі. Мужчыну затрымалі супрацоўнікі органаў па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі. Ён распавёў, што скраў салярку не для продажу, а для запраўкі свайго аўтамабіля. Узбуджаная крымінальная справа.

### Аптовы кірмаш з'явіўся ў Гродне

**ГРОДНА.** Упершыню ў Гродне стварылі аптовы кірмаш для прадпрымальнікаў, перадае БелТА. Ён размесціцца на гродзенскім рынку "Паўднёвы". Гандляваць на ім будуць раз на тыдзень. Прадпрымальнікі атрымаюць неабходныя дакументы на прадукцыю, якія патрабуе Тэхнічны рэгламент Мытнага саюза. Пастаянны аптовы кірмаш у Гродне – першы ў Беларусі.

Аддзел інфармацыі.



# "Даганятар" у дзеянні: якая чарка стане ракавой



Фота photosight.ru

Калі ў справу ўступае алкаголь – адключаюцца мазгі. Якія будуць наступствы – невядома.

**ВІЛЕЙКА. За апошнія дні на Вілейшчыне адразу некалькі цяжкіх злачынстваў адбыліся пасля выпіўкі і з-за неадольнага жадання выпіць яшчэ.**

### Так хацеў выпіць, што ледзь не задушыў

Саракагадовы жыхар вёскі Рабунь 18 сакавіка быў нападпітку. І, пэўна, вельмі захацелася яму дабавіць. Прыгадаў, што напярэдадні заходзіў у хату да мясцовай пенсіянеркі і бачыў, што там ёсць спіртное.

Выпрашыў залезці ў дом позна ўвечары. Каля паловы на адзінаццатую паднаў крючок дзвярэй і зайшоў у дом.

Аднак ціхенька намечанае ажыццявіць не ўдалося. Гаспадыня пачула, што нехта ходзіць у доме, уключыла святло і заспела злодзея. Тады ён схапіў яе рукамі за горла і стаў душыць.

– Але пасля таго, як жанчына стала актыўна супраціўляцца, спыніўся і збег з дома, – расказаў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук**.

Спіртнога аматар выпіць не здабыў.

Жанчына паклікала дачку, а тая выклікала міліцыю. Аднак уначы мужчыну не адшукалі.

Пасля няўдалай спробы пошукі спіртнога жыхар Рабуні не спыніў – працягнуў іх назаўтра. Завітаў у мясцовы магазін, дзе ў адкрытую схапіў бутэльку лікёру. І тут няўдача: заўважылі, з крамы не выпусцілі, і прадавец выклікала міліцыю.

У адносінах да мужчыны ўзбуджаныя дзве крымінальныя справы: за разбой і рабаванне. Цяпер ён ў ізалятары часовага ўтрымання. Мужчына не працуе, раней быў судзімы за забойства.

### Сярод ахвяраў – і жанчыны, і мужчыны

Вечарам 25 сакавіка жыхар вёскі Чэхі ў стане алкагольнага ап'янення збіў 36-гадовую жанчыну. Нанёс жыхарцы вёскі Шчукі не менш за дзесяць удараў нагамі. У выніку у той – разрыў ныркі, а мужчыну давядзецца адказваць за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

Праз пяць дзён з вёскі Нароча са сваёй кватэры шпіталізавалі з пранікальным раненнем брушной поласці 49-гадовага мужчыну. У сварцы пасля сумеснага распівання спіртнога яго ўдарыла нажом 43-гадовая сужыцелька. Так яна адрэагавала на сказаныя нападпітку словы, што ён, маўляў, пойдзе да другой. Абое не працуюць.

Жанчыну затрымалі. Тут таксама ўзбудзілі крымінальную справу за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. Прычым жанчыну ўжо раней судзілі за аналагічнае злачынства.

– Асноўнай прычынай гэтых злачынстваў стала тое, што зламыснікі былі ў стане алкагольнага ап'янення, – падкрэсліў Мікалай Раманчук. – Найчасцей цяжкія злачынствы і здзяйсняюцца ў п'яным стане.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАШЫ ГРОШЫ

# Праезд падаражэў у чарговы раз



Праезд у аўтобусе даражэў пяць разоў за год.

**Наколькі цяпер змяніліся цэны на праезд у гарадскім аўтобусе і цягніку.**

А таксама што можна было б набыць за зэканомленыя грошы, калі б праезд каштаваў столькі, колькі год таму.

## Праезд у аўтобусе даражэў пяць разоў за год

Ад 1 красавіка білет у гарадскіх аўтобусах нашага рэгіёна каштуе 3 200 рублёў. Калі набываць яго ў кіроўцы – 3 500.

Кошт на аўтобус павялічыўся толькі на 500 рублёў, але карэспандэнты "РГ" вырашылі падлічыць, ці істотная гэта розніца для кашалька.

Напрыклад, віляйчанін **Вадзім Мароз** карыстаецца аўтобусам двойчы ў дзень: едзе з дому на працу і вяртаецца назад. На тыдзень гэта дзесяць паездак, у месяц у сярэднім сорак. Атрымліваецца, што за месяц ён заплаціць за праезд на 20 тысяч рублёў больш – крыху больш за два долары. За гэтыя грошы можна набыць, напрыклад, дзве шакаладкі ці пяцілітровае вядро бульбы.

Мы так прывыклі да росту цэн, што складана прыгадаць, колькі разоў павялічваўся кошт на білет у гарадскіх аўтобусах. А між тым, толькі за год ён павышаўся пяць разоў!

## Удвая вырасла цана за білет

Давайце спынімся падрабязней і ўспомнім, як мяняліся цэны на праезд у гарадскім транспарце.

**Змяненне цэнаў на білеты ў гарадскіх аўтобусах**

| Калі мянялі цэны | Якая цана стала (рублі) | Якая цана папярэднічала (рублі) |
|---|---|---|
| 1 красавіка 2014 | 3 200 | 2 700 |
| 1 снежня 2013 | 2 700 | 2 200 |
| 1 кастрычніка 2013 | 2 200 | 1 700 |
| Май 2013 | 1 700 | 1 500 |
| Красавік 2013 | 1 500 | 1 400 |

За год кошт на білет з 1 400 рублёў павысіўся да 3 200 – больш чым удвая. Кошт цяперашняга білета складае амаль 230% ад кошту леташняга. Іншымі словамі, за год цана на білет у гарадскім аўтобусе павялічылася амаль на 130%.

Атрымліваецца, што калі той жа Вадзім Мароз ездзіў бы цяпер па білетах за 1 400 рублёў, то за месяц ён зэканоміў бы ўжо не 20, а 72 тысячы рублёў.

Калі б Вадзім Мароз ездзіў у тым жа рэжыме цэлы год па цане 1400 рублёў за білет, то за год ён зэканоміў бы 864 тысячы рублёў. За гэтыя грошы можна набыць мікрахвалёўку ці велатрэнажор.

## Праезд на электрычцы за год падаражэў удвая

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад другога красавіка кошты на праезд на чыгунцы павысяцца ў сярэднім на 30%.**

Дырэктар Маладзечанскага чыгуначнага вакзала **Аляксандр Савачкін** удакладніў, што сёлета гэта не апошняе павышэнне тарыфаў. Другое чакаецца напрыканцы лета.

– Праезд да Мінска будзе каштаваць каля 10 тысяч рублёў. І па іншых напрамках кошты вырастуць ненашмат, прыкладна ў 1,33 раза, – удакладнілі на чыгунцы.

На пачатку 2013 года да Мінска на электрычцы яшчэ можна было заехаць за 4920 рублёў. Сёння давядзецца заплаціць у два разы больш.

Ці шмат гэта?

Гіпатэтычна, калі маладзечанец **Сяргей Мароз** штодзень па буднях ездзіць у Мінск на працу, то цяпер у месяц ён аддасць на гэта 400 тысяч ад свайго заробку.

Летась на пачатку студзеня да першага павышэння ён аддаў бы каля 200 тысяч.

Атрымліваецца, калі б кошт сёння застаўся на ўзроўні 4920 рублёў, на праездзе ў год можна было зэканоміць 2,4 мільёна рублёў. А гэта ўжо тэлевізар з вадкакрысталічным экранам памерам 22 цалі альбо неблагі пыласос.

| Калі мянялі цэны | Якая цана стала (рублі) | Якая цана папярэднічала (рублі) |
|---|---|---|
| 2 красавіка | 9 840 (прыблізна) | 7 400 |
| 9 лістапада | 7400 | 5740 |
| 5 студзеня | 5740 | 4920 |

Калі Сяргею Марозу давядзецца ў Мінску дабірацца да працы на метро, то трэба ўлічыць яшчэ і цяперашняе падвышэнне цэнаў на гэты від транспарту. Ад красавіка праезд падаражэў ад 3000 да 3700 рублёў.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

ЭКАЛОГІЯ

# Прадстаўнікі Вілейшчыны наведваюць Сербію

**ВІЛЕЙКА. Прадстаўнікі Вілейскага раёна, якія займаюцца распрацоўкай мясцовага экалагічнага плана дзеянняў, накіраваліся з азнаямляльным візітам у Сербію.**

Адправіліся яны па запрашэнні рэгіянальнага экалагічнага цэнтра для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Нагадаем, гэты цэнтр выдзеліў Вілейшчыне грант у памеры 50 тысяч еўра для рэалізацыі экалагічнага комплексу мерапрыемстваў кампанента праграмы STREAM.

Візіт праходзіць з 2 па 7 красавіка, паведаміў каардынатар па стварэнні мясцовага экалагічнага плана дзеянняў па Вілейскім раёне **Сяргей Ганчар**. Прадстаўнікі Вілейшчыны – у складзе дэлегацыі з дзесяці раёнаў Беларусі. У Сербіі яны знаёмяцца з тым, як рэалізуюцца экалагічныя праекты: па перапрацоўцы бытавых адходаў, павышэнні якасці пітной вады, экалагічным выхаванні і іншымі.

*Падрабязней пра паездку чытайце ў адным з наступных нумароў.*

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

РЫБНАЯ ЛОЎЛЯ

# Адпускайце судака

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі ўстанавіла забарону на аматарскую лоўлю судака ва ўсіх рыбалоўных угоддзях рэспублікі ў перыяд з 1 красавіка па 30 мая.**

– Калі ў гэты перыяд вы ўсё ж злавілі судака, то яго неабходна выпусціць, – патлумачыў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету **Уладзімір Хіла.**

Незаконная здабыча судака цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь. Таксама давядзецца пакрыць нанесеную прыродным рэсурсам шкоду: а гэта шэсць базавых велічынь за кожную асобіну незаконна здабытага судака.

**Аддзел інфармацыі.**

КУЛЬТУРА

## У Мядзеле адкрываецца выстава маладзечанскай мастачкі

**МЯДЗЕЛ.** У пятніцу, 4 красавіка, у музеі народнай славы адкрываецца выстава "Свята душы". На ёй прадстаўлены 37 абразоў, якія напісала маладзечанская мастачка **Ядвіга Сянько.**

Адкрыццё выставы – у 15 гадзін. У ім прымуць удзел Ядвіга Сянько, праваслаўны і каталіцкі святары. Будуць гучаць духоўныя спевы ў выкананні хораў з мядзельскіх храмаў, паведаміла дырэктар музея **Святлана Чарняўская**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Ізноў пакажуць вілейскую версію "Звычайнага цуду"

**ВІЛЕЙКА.** Народны тэатр Палаца культуры 10 красавіка пакажа спектакль-мюзікл "Звычайны цуд" па п'есе Яўгена Шварца. Пачатак – у 18 гадзін.

Прэм'ера спектакля-мюзікла адбылася год таму. У ім занятыя мясцовыя акцёры. Рэжысёр-пастаноўшчык – **Вадзім Шырочын**.

**Аддзел інфармацыі.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Жыхары дамагліся навядзення парадку



Фота Інгі ГІСІЧ

У канцы сакавіка сметніцу мясцовыя жыхары вёскі Асіпавічы адсунулі бліжэй да дарогі, але праблему так і не вырашылі.

**ВІЛЕЙКА. У рэдакцыю звярнулася жыхарка вёскі Асіпавічы. Яе праблема старая як свет – смецце.**

– Ваяваць за чысціню ля свайго дома я пачала яшчэ ў лютым, – кажа **Інга Гісіч**, – тады ў ЖКГ мне адказалі, што да сметніцы ля дома па вуліцы Цэнтральнай вельмі благая дарога. І машыны туды проста не могуць праехаць. Між тым, смецця станавілася ўсё болей: пачалі складваць ля перапоўненых кантэйнераў, вецер разносіў яго па ўсім наваколлі. Тут, ля самай вуліцы, стаяць два пакінутыя дамы, з якімі таксама трэба нешта вырашаць. Усе, хто праязджае міма, чамусьці думаюць, што раз у двух дамах забітыя вокны, то тут увогуле людзі не жывуць, і пакідаюць нам сваё смецце.

Наступным крокам маёй эпапеі быў зварот да старшыні Асіпавіцкага сельгасвыканкама **Мікалая Гіля**. Тады ён паабяцаў мне вырашыць нашу праблему.

Неўзабаве смецце прыбралі. Здавалася, справядлівасць перамагла, жыві і радуйся, але не...

– Смецце вывезлі адзін раз і забыліся пра нас, – працягвае спадарыня Інга. – Заканчваецца сакавік, а пад вокнамі зноў горы смецця і непрыемны пах. Патэлефанавала ў ЖКГ, у сельгасвыканкам, адказы тыя ж: "Калі-небудзь прыбяром". Тады я звярнулася да нашага дэпутата **Наталлі Дзятко**. Я запыталася ў яе, што мне, у газету пісаць пра гэта бязладдзе? І, калі я ўжо прынесла фотаздымкі ў вашу газету, смецце з нашай вуліцы прыехалі і прыбралі. На гадзінніку было восем гадзін вечара.



Фота Інгі ГІСІЧ

Фота зробленае ў канцы лютага. Тады ў ЖКГ адказвалі, што да сметніка не могуць даехаць машыны.

Праз пагрозы таго, што аб сітуацыі ў вёсцы Асіпавічы даведаюцца СМІ, і неаднаразовае абіванне парогаў кіраўніцтва раёна Інга Гісіч дамагласся таго, каб на яе вуліцы навялі парадак. Але адказу на пытанне, якое задала Інга Гісіч, я, на жаль, не ведаю:

– Няўжо нельга збіраць смецце па пэўным графіку? Чаму, каб нешта рабілася, абавязкова трэба пагражаць тым, што прыедзе тэлебачанне або напішуць у газетах?

**Наталля ТУР.**

**Адказвае старшыня Асіпавіцкага сельвыканкама Мікалай Гіль:**

– Такая сітуацыя ў Асіпавічах была ў канцы зімы, тады з-за бездаражы машыны не змаглі пад'ехаць па смецце. Цяпер на вуліцы Цэнтральнай парадак, смецце вывозіцца своечасова. Магу з вамі з'ездзіць туды, каб вы пераканаліся на свае вочы.

| Курсы валют НБ РБ | 27.03 руб. | 3.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9850 | **9900.00** |
| Еўра | 13600 | **13 660,00** |
| Злоты | 3248.25 | **3 269,16** |
| Літ | 3940.63 | **3 954,38** |
| Расійскі рубель | 278 | **281,00** |
| Грыўня | 899.54 | **868,42** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9840/9890 | 9870/9920 |
| Еўра | 13580/13670 | 13620/13710 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.03 | 2.04 (Цана руб.) |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 109500 | **110900** |
| Сасіскі, 1 кг | 49050 | **48900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **21900** |
| Ялавічына, (вырэзка), 1 кг | 72000 | **72000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 30500 | **28300** |
| Селядзец, 1 кг | 32000 | **33000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 92000 | **94000** |
| Рыс, 0,9 кг | 9500 | **10800** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 13500 | **13000** |
| Алей "Кум" | 12500 | **14000** |
| Маянэз, 200 г | 5000 | **5000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7700 | **7500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 28000 | **28000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | **16000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7700 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 5700 | **11000** |
| Морква, 1 кг | 6500 | **7000** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Лімоны, 1 кг | 21500 | **21000** |
| Апельсіны, 1 кг | 15500 | **14000** |
| Мандарыны, 1 кг | 18500 | **17500** |
| Памідоры, 1 кг | 24500 | **27000** |
| Агуркі, 1 кг | 26500 | **25000** |
| Перац, 1 кг | 32500 | **39000** |
| Вінаград, 1 кг | 28000 | **38000** |
| Бананы, 1 кг | 17100 | **19500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Канферэнцыя) | 18500 | **15000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 13500 | 13500 |
| Масла, 1 кг | 80000 | 80000 |
| Тварог, 1 кг | 42000 | 42000 |
| Бульба, вядро 5 л | 20000 | 25000 |
| Сала, 1 кг | 55000 | 55000 |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | 50000 |




На перакрыжаванні каля "Бярозкі" ў Маладзечне часта адбываюцца аварыі. Чытач "Рэгіянальнай газеты" прапануе рашэнне праблемы.

# Як спыніць аварыі каля "Бярозкі"

**МАЛАДЗЕЧНА. Перакрыжаванні Вялікага Гасцінца з вуліцамі Касманаўтаў і Гарадоцкай, перакрыжаванне Віленскай і Валынца побач з "Бярозкай". Як спыніць заканамерныя аварыі?**

Чытач "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандр Якубоўскі** даслаў у рэдакцыю ліст, дзе звяртаўся да мясцовых уладаў, каб тыя перасталі ігнараваць аварыі, якія штораз здараюцца побач з "Бярозкай". Ён прапаноўваў паставіць знак, які абмяжоўваў бы хуткасць пры пад'ездзе да скрыжавання Віленскай і Валынца да 30 км/г і дапоўніць святлафоры стрэлкамі (падрабязней можна пачытаць у №12 за 21 сакавіка).

### ДАІ адгукнулася

Як патлумачыў намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў**, ДТЗ каля "Бярозкі" адбываюцца пераважна з-за няўважлівасці кіроўцаў пры павароце налева.

Альбо чалавек едзе з пуцеправода і паварочвае налева да "Крывога", альбо едзе з боку райвыканкама і паварочвае налева на Валынца да "Беларусбанка". Калі кіроўца недастаткова ўважлівы і не прапускае кагосьці, адбываецца ДТЗ.

### Стрэлка на святлафоры можа стаць выйсцем

Цяпер перад перакрыжаваннем стаіць знак 40 кіламетраў у гадзіну.

– ДАІ кантралюе хуткасны рэжым, – адзначае Уладзімір Васількоў. – Але ж як могуць супрацоўнікі пракантраляваць? Пакараць парушальнікаў. І іх караюць.

Вось дадатковая секцыя, гэта значыць, дадатковая стрэлка налева на святлафоры, магчыма, і зможа паўплываць на сітуацыю. Таму супрацоўнікі ДАІ ўнясуць хадайніцтва кіраўнікам адпаведных арганізацый, якія адказваюць за ўсталяванне святлафораў. Загадаць яны не могуць, а падаць хадайніцтва – так.

**Настасся РОЎДА.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# За спробу "адкасіць" ад арміі заплаціў 13 мільёнаў

**АСТРАВЕЦ. Малады чалавек атрымаў павестку з ваенкамата, але не прыйшоў на медыцынскі агляд.**

Цяпер яму давядзецца выплаціць 100 базавых велічынь.

Судзіў Гродзенскі міжгарнізонны суд.

Хлопец у якасці прызыўніка прыпісаны да Астравецкага раённага ваеннага камісарыята. Згодна з павесткай, мусіў летась 10 красавіка прайсці медыцынскі агляд. Гэта адно з мерапрыемстваў прызыву на воінскую службу.

Але малады чалавек вырашыў ухіліцца ад службы і не прыйшоў на медагляд. Уважлівых прычын на гэта не меў. На судовым пасяджэнні патлумачыў, што даў распіску за атрыманне павесткі, але абыякава ставіцца да воінскай службы, і таму не пайшоў на агляд. Гэтым стварыў перашкоду для прызыўной камісіі, якая вырашала, ці прызываць яго.

Дзеянні маладзёна суд расцаніў як ухіленне ад прызыву на воінскую службу.

Хлопец упершыню прыцягваецца да крымінальнай адказнасці, таму суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе штрафу. Ён абавязаны выплаціць 100 базавых велічынь. На момант суда, 12 лістапада, гэта было 13 мільёнаў рублёў.

Абвінавачанаму 18 год. Нарадзіўся ў вёсцы Кавалі на Астравеччыне. Працаваў поварам у мінскім рэстаране.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

● КРЫМІНАЛ

# Са спайсам затрымалі адразу трох валожынцаў

**ВАЛОЖЫН. Усіх затрымалі ў адзін дзень у Валожыне. Аднаму з затрыманых пагражае да 13 год зняволення.**

27 лютага, у адзін дзень, у розных частках горада затрымалі трох хлопцаў 21-22 гадоў, якія пры сабе мелі спайс. На сённяшні дзень крымінальная справа супраць двух завершаная. Ім за захоўванне наркатычных сродкаў пагражае да пяці гадоў зняволення.

Трэці з іх пакуль знаходзіцца пад следствам. Па аператыўнай інфармацыі, ён меў намер распаўсюджваць (збываць) спайс, таму ў выпадку, калі гэта інфармацыя пацвердзіцца, маладому чалавеку пагражае ад 8 да 13 год зняволення.

– У Валожыне гэта першы выпадак, звязаны з захоўваннем і распаўсюджваннем спайсу, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Уладзімір Падарэцкі.**

**Наталля ТУР.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Пракуратура "нарысавала" партрэт забойцы

**Хто яны – людзі, пра якіх мы чытаем у міліцэйскіх зводках, якія пужаюць нас жорсткасцю сваіх учынкаў.**

Сёння ў Мінскай вобласці значна вырасла колькасць забойстваў і фактаў наўмыснага прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Найбольш часта такія злачынствы здзяйсняюцца ў сельскай мясцовасці, а таксама ў буйных гарадах.

**75-і працэнтам злачынстваў папярэднічае ўжыванне спіртнога. Раней судзімыя асобы здзяйсняюць кожнае трэцяе забойства і кожнае чацвертае цяжкае цялеснае пашкоджанне.**

З агульнай колькасці асоб, якія ўчынілі забойствы і прычынілі цяжкія цялесныя пашкоджанні, 55% нідзе не працавалі і не вучыліся.

**Найбольш тыповы для вобласці сацыяльны партрэт забойцы – мужчына ад 25 да 50 год, які нідзе не працуе, злоўжывае спіртным і прыходзіцца знаёмым альбо сваяком ахвяры.**

Больш як у палове выпадкаў мела месца сумеснае распіццё спіртнога пацярпелым са злачынцам незадоўга да здзяйснення злачынства на глебе непрыязных адносін па намеры, які ўзнік раптоўна.

Асноўныя прычыны здзяйснення забойстваў і цяжкіх цялесных пашкоджанняў – гэта ўстойлівыя асацыяльныя паводзіны, злоўжыванне алкаголем, нежаданне асобных катэгорый грамадзян займацца грамадска-карыснай працай, змяненне не ў лепшы бок маральных арыенціраў.

Выснова відавочная. Цяперашняе становішча з ростам забойстваў і цяжкіх цялесных пашкоджанняў не з'яўляецца часовым. Спадзявацца на тое, што праз некаторы час такія злачынствы спыняцца самі па сабе неразумна і безадказна.

Такі стан спраў вымушае праваахоўныя і іншыя дзяржаўныя органы ўкараняць новыя формы і метады апераджальнай працы.

У першую чаргу органам унутраных спраў і саветам грамадскага пункта аховы парадку неабходна на пастаянай аснове праводзіць працу па своечасовым выяўленні асоб, якія нідзе не працуюць і якія злоўжываюць спіртнымі напоямі. І праводзіць з імі індывідуальныя прафілактычныя мерапрыемствы, прадугледжаныя заканадаўствам.

Далёка не апошнюю ролю ў барацьбе са злачыннасцю адыгрывае і нецярпімасць грамадства да п'янства, наркаманіі і ўтрыманства.

**Уладзімір НЕПАКУПНЫ, старшы памочнік пракурора Мінскай вобласці.**



● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Можна атрымаць пасведчанне кіроўцы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС разам з ДТСААФ ладзіць навучанне кіраванню матацыклам сярод асобаў 16-гадовага ўзросту, якія не маюць пасведчання кіроўцы на права кіравання матацыклам.

Пры паспяховай здачы экзаменаў па правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыклам навучэнцам выдадуць пасведчанне кіроўцы.

Рэгістрацыя ахвотных прайсці навучанне адбудзецца 15 красавіка на аўтадроме Маладзечанскага ДТСААФ па адрасе: Маладзечна, вуліца Віленская, дом 64. Тэлефоны: 73-48-00, 73-56-03, 74-53-47. Пачатак у 15.00.

## Будзьце пільныя – матацыклісты

З надыходам вясеннелетняга перыяду і з'яўленнем на дарогах двухколага транспарту Дзяржаўтаінспекцыя ад 2 да 6 красавіка ладзіць прафілактычную акцыю "Матацыкліст". Мэта яе – прадухіліць ДТЗ з удзелам скутарыстаў, матацыклістаў і раварыстаў.

## Аштрафуюць за няправільную паркоўку і забруджванне дарогі

Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечанскага райаддзела міліцыі праводзіць адпаведныя мерапрыемствы.

Недапушчальна забруджваць аўтамабільныя дарогі і палосы адводу каля палігонаў цвёрда-бытавых адходаў. Таксама недапушчальна паркавацца на газонах і іншых участках з зялёнымі насаджэннямі.

Да тых, хто будзе парушаць гэтыя правілы, прыменяць меры адміністрацыйнага ўздзеяння.

**Паводле паведамлення дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага РАУС.**

БРАТЫ НАШЫ МЕНШЫЯ

# Не залежыць дабрыня ад узросту

**МАЛАДЗЕЧНА. Сямікласніца СШ №12 Яна Кштальтная разам з сяброўкамі дапамагаюць бяздомным жывёлам. Маленькія дзяўчаткі робяць вялікую справу: ратуюць жывёл з вуліцы і знаходзяць ім новых гаспадароў.**


Фота Таццяны КУРАЛОВІЧ.

**Маладзечанка Ганна Новік са сваім гадаванцам. Няважна, дзе вы ўзялі жывёлу: у элітным гадавальніку ці падабралі на вуліцы, галоўнае, каб яна была самай любімай.**

– Мяне заўсёды здзіўляла, што ў нашым вялікім горадзе Маладзечна няма ніякай дабрачыннай арганізацыі, якая б ратавала жывёл. Каб дапамагаць ім, я стварыла суполку ў адной з сацыяльных сетак, туды размяшчала фотаздымкі маладзечанскіх коцікаў і сабачак, якія шукаюць свой дом. Потым да маёй справы далучылася сястра Света, іншыя дзяўчаткі.

Месяц таму мы сталі нават выпускаць сваю газету, у якой расказваем пра жывёл. Газету распаўсюджваем сярод аднакласнікаў і сяброў. Мы мяняем газету на корм для жывёл, бо цэнім "прадаём". У газеце расказваем пра тое, як даглядаць за жывёламі, якую мянушку можна падабраць свайму гадаванцу.

У наступным нумары будзе матэрыял пра Хаціка. І ў нас ужо пытаюцца, а калі вы надрукуеце новы нумар? На апошняй старонцы размяшчаем фотаздымкі жывёл, якія шукаюць дом, просім нашых чытачоў выразаць гэты малюнак і размясціць у сваім дзённіку, раптам якому настаўніку таксама патрэбны дамашні гадаванец. Расказалі пра сваю газету ў школе. Намеснік дырэктара **Кацярына Валер'еўна Іванова** таксама абяцала нам дапамагаць.

**– Як вы адны спраўляецеся з такой няпростай справай? Няўжо дарослыя не дапамагаюць?**

– Калі я толькі пачынала займацца гэтым, я наогул баялася нават камусьці расказаць. Думала, што з мяне будуць смяяцца. Падтрымала мяне мама. Яна піша без памылак, таму дапамагае з аб'яўкамі. Я тэлефанавала ў "Эгіду", дабрачынная арганізацыя такая, у Мінск. Спачатку там сказалі, каб я не забаўлялася і паклікала да тэлефона дарослых. А што, дапамагаць жывёлам могуць толькі дарослыя?

Не па-дзіцячы сур'ёзным позіркам паглядзела на мяне Яна. І дадала: я ж не маленькая, я ўсё разумею, што калі нават дзяржава грошы на дапамогу жывёлам і выдзяляе, то да валанцёраў гэтыя грошы не даходзяць. Але чаму ветэрынары не ідуць нам насустрач, яны ж таксама дактары? Я хацела б падзякаваць ветэрынару Святлане за яе неабыякавасць да хворых жывёл і за ўвагу да нас, дзяцей.

**– Яна, раскажы пра жывёл, якіх вы ратуеце. Дзе вы іх бераце, як даглядаеце?**

– Бяром, зразумела, на вуліцы. У першую чаргу ратуем кацянят і шчанюкоў, бо яны на вуліцы самыя безабаронныя і безабаронныя.

**Мы разам з дзяўчынкамі знайшлі ўжо дом для дзесяці катоў і некалькіх сабак. За нашымі жывёламі прыязджалі і з Мінска, і са Слуцка.**

Вы здзівіцеся, але добрых людзей, як аказалася, не так і мала. Вельмі прыемна бачыць, як у сацыяльных сетках з'яўляюцца фотаздымкі людзей з коцікам, якога ты выратавала і дзякуючы табе ён знайшоў дом і свайго гаспадара.

### Пародзістыя таксама плачуць

Кожную жывёлу, якую выратавалі дзяўчаткі, яны добра памятаюць. І сабачку Кінга, якога ў самыя моцныя маразы знайшлі на рынку. Ён быў у ашыйніку, але вельмі кволы і галодны. Дзяўчаты спыталіся ў прадаўца на рынку, чый гэта сабака. Прадавец адказаў, што нічыйны. Ён сам надзеў на яго ашыйнік, бо баяўся, што адловяць і заб'юць.

Спачатку бацькі былі супраць сабакі ў кватэры, але вельмі халоднае надвор'е не дазволіла выкінуць жывёлу наўпрост на вуліцу. І ў хуткім часе Яна знайшла аб'яўку ў газеце, што чалавек шукае сабе сабаку ў прыватны дом. Так Кінг знайшоў сабе гаспадара.

**Валерыя Грамовіч**, сяброўка Яны, прыгадала гісторыю, як пад іх дзверы прыйшла нямецкая аўчарка. Хоць вялікі сабака быў, кажа Лера, але яшчэ шчанюк. Расклеілі аб'явы, і гаспадар знайшоўся.

**А быў і такі выпадак, што патэлефанавала дзяўчаткам нейкая жанчына, сказала, каб забралі ў яе сабаку, бо яна яго выкіне на вуліцу за тое, што псуе мэблю ў кватэры.**

– А як вы хочаце, кажу я ёй, – абураецца Яна, – сабаку трэба вучыць, выхоўваць. Потым я прачытала ў інтэрнэце, што не ўсе сабакі могуць жыць у кватэры, ім трэба воля. Патэлефанавала гэтай жанчыне, папрасіла не выкідаць сабаку, паабяцала, што знайду яму прасторны дом.

**А на гэтым тыдні дзяўчатам давялося шукаць дом для пародзістага ката, сапраўднага брытанца.**

Ката знайшла дзяўчынка Ева на аўтобусным прыпынку. Адмыла яго, паказала ветэрынару. У ката аказалася зламаная пярэдняя лапка.

– Ева напісала, што ў яе жыве свой кот і гэтага яна не можа пакінуць сабе. Я ёй патэлефанавала, а аказалася, што яна ўжо аддала ката іншым людзям. Але праз некалькі дзён Ева змясціла ў сетцы новае паведамленне, што новыя гаспадары выкінулі ката і ён са сваёй балючай лапкай зноў апынуўся на вуліцы. Мы ўсе шукалі яго, а знайшла зноў Ева.

Я забрала гэтага ката сабе. Вы не ўяўляеце, які ён прыгожы! Мама мне кажа, што не можа быць, каб такіх прыгажуноў выкідалі, што дасць аб'яву, каб знайсці былых гаспадароў. Але я думаю, што ён усё ж такі зрабіўся нікому не патрэбны і яго проста выкінулі за дзверы. Так не павінна быць! Я абавязкова знайду яму новы дом, дзе яго будуць любіць. А калі не знайду, папрашу ў мамы пакінуць яго сабе.

### У веткабінеце не адмовяць

У прыватным ветэрынарным кабінеце "Велес" на пытанне, ці дапамагаюць яны валанцёрам, якія прыносяць да іх бяздомных жывёл, адказалі:

– Канешне, калі гэта просьба апрацаваць ранку ці вылечыць атручванне, то мы не адмаўляем у дапамозе. І грошы за гэта не бяром. Бывае, да нас звяртаюцца бабулькі, якія прыносяць каткоў, што жывуць пад пад'ездамі, просяць іх стэрылізаваць. І ў такіх выпадках мы не адмаўляем, але і бяром грошы толькі за медыцынскія прэпараты. Мы ўсё разумеем, як адмовіць, калі да нас звяртаюцца з хворай жывёлай?

**Наталля ТУР.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Вы можаце дапамагчы змагацца з наркотыкамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Адны з самых небяспечных злачынстваў – тыя, якія звязаны з незаконным абаротам наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў.**

Паводле Крымінальнага кодэкса, за кожнае злачынства па гэтым відзе прадугледжаная пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі. Звяртаем увагу на тое, што чалавек, які збывае наркатычныя сродкі, узбагачаецца. І пры гэтым падрывае здароўе іншых, здароўе нацыі.

Наркатычная залежнасць, як правіла, невылечная. Тыя, хто ўжывае наркотыкі, – хворыя людзі, а ўжо потым і злачынцы. Паспрабаваўшы аднойчы наркотык, чалавек не можа адмовіцца ад гэтай згубнай залежнасці. Як кажуць тыя, хто сам паспрабаваў, "былых" наркаманаў не бывае.

Ад 7 да 11 красавіка па Беларусі, у тым ліку і на тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага РАУС, правядуць першы этап адмысловай праграмы "Допінг". Яе праводзяць, каб знаходзіць і раскрываць злачынствы, звязаныя з паступленнем у незаконны абарот лекаў, якія ўтрымліваюць наркатычныя сродкі і псіхатропныя рэчывы.

Будуць канфіскаваць наркатычныя і псіхатропныя рэчывы, іх аналагі, выробленыя з лекавых прэпаратаў самастойна ці ў падпольных лабараторыях.

Звяртаем вашу ўвагу: той, хто добраахвотна здасць наркатычныя сродкі, псіхатропныя рэчывы або прэкурсоры, будзе вызвалены ад крымінальнай адказнасці. Гэта тычыцца і людзей, якія будуць актыўна спрыяць раскрыццю або спыненню злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам гэтых сродкаў, рэчываў, выкрыццю адказных асоб.

Калі вам што-небудзь вядома пра крадзяжы, збыт, захоўванне, выраб, вырошчванне наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў, просім тэлефанаваць у Маладзечанскі РАУС на нумары: **8(0176) 77 19 11**, мабільны **8(029) 773 39 15, 8(044) 786 31 35.**

**Ананімнасць гарантуем.**

Толькі агульнымі намаганнямі мы зможам супрацьстаяць такому злу, як наркаманія, цяжкай хранічнай хваробе.

**Дзмітры СУХОЦКІ, начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС, капітан міліцыі.**

ГАНДАЛЬ

# Рэгіянальны веснавы кірмаш – у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 5 красавіка, на плошчы Старое Места адбудзецца веснавы кірмаш.**

Пра гэта распавяла намеснік начальніка аддзела гандлю і паслуг маладзечанскага райвыканкама **Тамара Мікуліч**.

Сярод іншых тавараў і прапаноў асаблівую ўвагу гандляры нададуць саджанцам. Гэта будзе рэгіянальны кірмаш: гандляры прыедуць з Валожыншчыны, Мядзельшчыны і Вілейшчыны. Сваю прадукцыю прапануюць і гаспадары.

Пачатак а 10 гадзіне. Наступны кірмаш плануецца правесці 3 мая.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# "Будзем мы рабіць з Лісы 300 грамаў кілбасы"

**МАЛАДЗЕЧНА. Не пужайцеся, такіх жарсцяў у "Батлейцы" вы не ўбачыце. Але пачуць – пачуеце. Так Певень будзе выганяць Лісу з дома Зайца.**

6 красавіка ў 12.00 у "Батлейцы" пакажуць прэм'ерны спектакль "Шматкі па закавулачках" па аднайменнай казцы Рыгора Остэра.

Пастановачную групу запрасілі з Мінска. Рэжысёр – **Аляксандр Янушкевіч**, мастак-пастаноўшчык – **Таццяна Нерсісян**, кампазітар – **Аляксандр Літвіноўскі**.

## Героі шукаюць справядлівасць

Рэжысёр называе жанр пастаноўкі "жыццёвай гісторыяй". Гэта не казка ў поўным сэнсе гэтага слова.

У Лісы была ледзяная хата, якая вясной растала. Тады яна вырашыла напрасіцца пажыць у Зайца, які меў добры драўляны дом. Па дабрыні душы Заяц пусціў рыжую да сябе.

Адчуўшы сябе ў бяспецы, яна выганяе Зайца.

– Але гэта несправядліва! – не разумее Заяц учынку сваёй прыяцелькі.

– Так, несправядліва, – не спрабуе сябе апраўдаць Ліса. – Але ці не казала я табе, што няма справядлівасці ў свеце? Дык вось праўду казала, а ты не верыў.

– Ёсць, я знайду! І прывяду заступнікаў!

І Заяц адпраўляецца на пошукі.

У выніку ад Лісы яго ратуе не хто іншы, як Певень. Яго "ку-ка-рэку" ды "будзем мы рабіць з Лісы 300 грамаў кілбасы" робіць сваю справу.

Шчаслівы Заяц, узрушаны сваім поспехам, заяўляе:

– Справядлівасці колькі хочаш на свеце!

– Не, не колькі хочаш, а колькі можаш, колькі яе здабудзеш – столькі яе і будзе, – каркае яго певень.

І гэта асноўнае пасланне гледачу.

## Рэжысёр пра пастаноўку

Аляксандр Янушкевіч ужо цягам пяці гадоў працуе рэжысёрам-пастаноўшчыкам у Беларускім дзяржаўным тэатры лялек у Мінску. У яго скарбонцы ўжо каля 10 пастановак.

– Чаму менавіта гэта казка? Тэма добрая, тут і пра падман, і пра справядлівасць, – распавядае Аляксандр. – Дзецям будзе і цікава, і карысна паглядзець. У такой сітуацыі яны аказваюцца і ў дзіцячым садку, і ў школе. Калі хтосьці хлусіць, крыўдзіць. Гэта жыццёвыя сітуацыі, знаёмыя дзецям. Пастаноўка ж паказвае і рашэнне гэтых праблем.

Як Ліса выгнала Зайца? Напужала, сказаўшы: "Ідзі адсюль, а то пойдуць шматкі па закавулачках". Ніхто не ведае, што гэта значыць, але ўсім страшна.

А як выгналі Лісу? Фактычна гэтаксама. Як кажуць, клін клінам выбіваюць.

У пастаноўцы вельмі шмат дзеяў, гумару, адзначае рэжысёр. Задзейнічаныя пяць акцёраў: **Таццяна Чаеўская**, **Таццяна Паўлючук**, **Міхаіл Асановіч**, **Дзяніс Валахановіч**, **Аляксандр Майрын**.

**– Ці кожная пастаноўка павінна чамусьці вучыць? Можа, тэатр – проста шоу?**

– Шоу зараз паўсюль, – лічыць Аляксандр. – Калі гаворка ідзе пра тэатр, тут павінна сумяшчацца і тое, і другое. Трэба відовішча, але галоўнае, каб спектакль быў не пусты. Каб дзіця штосьці вынесла для сябе і ў цяжкую хвіліну, калі яно сутыкнецца з жыццёвымі складанасцямі, ведала, як супрацьстаяць падману ці здрадзе. Гэта маленькі свет, але ўжо мадэль дарослых сацыяльных зносін.

**– У колькі гадоў дзіця можа ўхапіць сутнасць пастаноўкі?**

– Спектакль разлічаны на ўзрост ад пяці год. Дзеці ўжо могуць сачыць за сюжэтам і маюць паняцце аб сацыяльных зносінах у групе. Хтосьці пачынае выбівацца ў лідары, хтосьці, наадварот. Хто здаравейшы, той трымае астатніх пад прыцэлам. Казка пра гэта. Яна вучыць адстойваць сябе, свае ідэалы, свой гонар і справядлівасць.

**Настасся РОЎДА.**



**Даведка "РГ". Аляксандр Янушкевіч.** Скончыў акцёрскі факультэт Беларускай акадэміі мастацтваў у 2000 годзе. Пасля выпуску быў прыняты ў трупу Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек. У 2011-м скончыў рэжысёрскі факультэт Беларускай акадэміі мастацтваў. Пастаноўкі: "Гісторыя аднаго горада" па Салтыкову-Шчадрыну, "Вянчанне" Гамбровіча, "Дзяды" А. Міцкевіча, "Эдып" Сафокла і іншыя.

КОНКУРСЫ

# "Малая сакавіца" аб'яднала аматараў тэатра

**МАЛАДЗЕЧНА. Раённы фестываль дзіцячых тэатральных калектываў "Малая сакавіца" прайшоў у Маладзечне падчас вясновых канікулаў. У ім прынялі ўдзел каля 150 вучняў.**



Фота Віталя МЛЕЧКІ.

На фестывалі дыплом трэцяй ступені дастаўся ўдзельнікам драмгуртка СШ №4.

Ад экалагічнага тэатра да мюзікла паказалі на сцэне сёлетнія ўдзельнікі фестывалю.

На ўрачыстае адкрыццё фестывалю запрасілі гасцей – калектыў "Мадэрн" гімназіі-каледжа мастацтваў пад кіраўніцтвам **Валерыя Мурычына**. А затым журы ў складзе рэжысёраў-пастаноўшчыкаў, прафесійных акцёраў і настаўнікаў прагледзела выступленне дзевяці фіналістаў.

Тэатральная студыя "Палітра" гімназіі №10 прадставіла гледачам "Карусель баек" паводле вершаў і баек нашага земляка Янкі Купалы. Высокі прафесійны ўзровень педагога **Людмілы Рошчынай** і талент дзяцей быў адзначаны дыпломам "За лепшае рэжысёрскае рашэнне і яркі акцёрскі ансамбль", сярод якога журы вылучыла **Юлію Раманоўскую**, **Максіма Сцепановіча** і **Кацярыну Казлоўскую**. Удзельнікі прыемна ўразілі ўменнем ўжыцца ў вобраз, упэўненасцю на сцэне, гумарам і музычнасцю.

Дыпломам "За прыхільнасць нацыянальным традыцыям" узнагароджанае аб'яднанне па інтарэсах "Тэатральны гурток" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" (педагог **Наталля Маскалевіч**). У беларускай казцы "Прагнасць не ў радасць" вельмі каларытнымі персанажамі былі бабка (**Яна Каласоўская**) і дзед (**Аляксандра Дзясятнік**).

Калектыў "Адлюстраванне" СШ №1 (педагог **Вольга Ластоўская**) быў адзначаны за яркае харэаграфічнае суправаджэнне. Сярод персанажаў вядомай казкі Андэрсэна "Снежная каралева" журы вылучыла выканаўцу ролі Герды **Ульяну Лазарэнку**.

Самымі малодшымі ўдзельнікамі фестывалю сталі трэцякласнікі гімназіі №3. Настаўніца **Галіна Гулевіч** ужо не першы год аб'ядноўвае вучняў свайго класа ў дружны экалагічны тэатр.

Упершыню на фестывалі з'явілася намінацыя "Спектакль на замежнай мове", у якой было прадстаўлена пяць тэатральных пастановак. Пераможцам у гэтай намінацыі стаў калектыў "Парадокс" гімназіі-каледжа мастацтваў (рэжысёр-пастаноўшчык **Генадзь Пшэннік**). На другім месцы – музычна-тэатральная студыя "ТэаМуз" гімназіі №6 (педагог **Ксенія Мейсак**). Дарэчы, "Кот у ботах" быў адзіным мюзіклам на фестывальнай сцэне. Дыплом трэцяй ступені дастаўся ўдзельнікам драмгуртка СШ №4 пад кіраўніцтвам **Анастасіі Канановіч**. У гэтай намінацыі за яркае выкананне роляў былі адзначаны **Яўген Ажараў** (гімназія №6), **Аляксандра Гурэцкая** (Хажоўская СШ) і **Алена Цярзян** (гімназія-каледж мастацтваў).

Закрыццё фестывалю адбылося на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра, дзе ўдзельнікаў цёпла вітаў дырэктар установы **Юры Крывенькі**. Выдатным фінальным акордам свята стала выступленне ўзорнага тэатра-студыі "ТэСт" пад кіраўніцтвам **Таццяны Бабей**.

**Серафіма ЖУКОЎСКАЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**



Фота Віталя МЛЕЧКІ.

У пастаноўцы гімназіі №3 на сцэне ігралі самыя маладыя ўдзельнікі фестывалю, трэцякласнікі, акцёры экалагічнага тэатра. Выступалі яны са спектаклем "Гусі-лебедзі".

● СУСТРЭЧЫ

# Канферэнцыя “Ведаем, памятаем, ганарымся” адбылася ў школе №5

**МАЛАДЗЕЧНА. Канферэнцыю прымеркавалі да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Кіраўнік клуба “Пошук” **Лідзія Князева** ў прывітальным слове патлумачыла ўсім прысутным, што мэта гэтага мерапрыемства – раскрыць значэнне Вялікай Айчыннай вайны ў фарміраванні гістарычнай памяці народа. Зберагчы памяць аб самай крывавай вайне ў гісторыі праз дыялог розных пакаленняў: тых, хто прайшоў вайну, і тых, хто ведае пра вайну толькі па падручніках.



Фота Наталлі ТУР.

І праз 70 год пасля вызвалення Беларусі памяць аб вайне нікога не пакідае абыякавым.

У гэты дзень сувязь і агульная справа розных пакаленняў была заўважаная, як ніколі. На мерапрыемстве прысутнічалі як вучні школы, так і запрошаныя госці: вайскоўцы вайсковай часці 01452, былая вязень лагера “Азарычы” **Тамара Бычок** і вязень канцлагера **Галіна Жыгальская**, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму **Іна Драпеза**, кіраўнік маладзечанскага аддзялення Фонду міру **Святлана Чыжыкава**.

Праграма канферэнцыі ўвабрала ў сябе літаратурна-музычныя кампазіцыі, прагляд фрагментаў кінахронікі ваенных часоў і, зразумела, самі даклады па тэме Вялікай Айчыннай вайны.

Вайскоўцы **Іван Леўкавец і Павел Чэх** нагадалі прысутным пра першыя дні вайны на тэрыторыі Беларусі, пра партызанскі і падпольны рух. Вучань 8 класа член клуба “Пошук” **Аляксей Юр’еў** распавёў пра лагер смерці, у якім загінула больш за 33 тысячы ваеннапалонных і мірных жыхароў, – “Шталаг-342”.

Скончылася мерапрыемства ўскладаннем кветак да помніка “Шталаг-342”.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Літаратурную кампазіцыю вучні школы падрыхтавалі сумесна з вайскоўцамі.

● “КРУГЛЫ СТОЛ”

# Намаляваць партрэт наркамана без твару – у Астраўцы

**АСТРАВЕЦ. Знясіленая, са сколатымі венамі рука. Адхілены погляд вачэй без усялякіх эмоцый. Бязладная гаворка, недарэчныя адказы на, здавалася б, самыя звычайныя пытанні.**

А галоўнае, поўная абыякавасць да таго, што адбываецца навокал і адсутнасць цікавасці да жыцця.

І ўсё гэта не ў глыбокай старасці, а ў 14-16 гадоў. Гэта страшная хвароба слабых, бязвольных і недальнабачных людзей. Гэта – наркаманія.

За “круглым сталом”, які зладзіў Астравецкі цэнтр дзяцей і моладзі, для тых, хто стаіць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх, хто знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, сабраліся 16 дзяцей. Сядзець ім не давялося.

Як правільна і своечасова адмовіцца ад наркотыкаў? Рашэнне дзеці шукалі самі. Яны разбіліся па двое, разыгралі сцэну з жыцця, калі адзін прапануе наркотыкі, а другі – адмаўляецца ад іх.

Сацыяльныя педагогі прапанавалі навучэнцам згуляць у “Партрэт наркамана”. Яго трэба было намаляваць. Прытым гэта не абавязкова павінен быў быць чалавек. Дзеці мусілі паказаць праз малюнак тыя эмоцыі, якія ў іх абуджаюцца, калі яны бачаць наркамана.

Сацыяльны педагог Астравецкага цэнтра творчасці **Святлана Каспяровіч** патлумачыла, наколькі праблема наркаманіі вострая ў нашай краіне.

А што такое наркотыкі, на што сябе выракае наркаман, да якіх хвароб прыводзіць ужыванне наркотыкаў тлумачылі оперупаўнаважаны групы наркакантролю і процідзеяння гандлю людзьмі **Уладзімір Мацкевіч** з начальнікам інспекцыі па справах непаўналетніх Астравецкага РАУС **Русланам Гайдулем**.

**Паводле інфармацыі Астравецкага цэнтра дзяцей і моладзі.**

# Ганна Новік. “З перажытага”

*Працяг. Пачатак у №13.*

**ВІЛЕЙКА. Працягваем знаёмітца з вытрымкамі з успамінаў паэтэсы Ганны Новік, якой 25 сакавіка споўнілася б 100 год.**

### З білетам у Вільню дапамог вучань

Пад канец сёмага класа арганізавалася экскурсія ў Вільню. Білет каштаваў сем злотых, і я не магла паехаць. Колькі разоў пасылалі за мной дзяўчат. Мне не хацелася прызнацца, што ў мяне няма сямі злотых. Я знаходзіла прычыны.

Урэшце прыйшоў мой вучань Антэк, паклаў у кішэню сем злотых. Адчуваючы да яго сімпатыю, я не адмовілася.

Трэба сказаць, што ён быў адметны сярод вучняў ростам і вопраткай. За тры дні нашага знаходжання ў Вільні я бачыла ў ім сябра, гатовага мне дапамагчы ў любы час.

### Як жылі пры Польшчы

У кожнай гміне быў пастарунак паліцыі – у ёй камендант і 6-8 паліцаяў. Усе парадкі ў вёсках наводзілі паліцэйскія, глядзелі за санітарнай гігіенай. У кожным двары павінна была быць бочка з вадой і вешка (венік на высокай жэрдцы) для тушэння пажараў. Калі выганяць у поле жывёлу, неабходна было адразу сабраць увесь памёт, ачысціць вуліцу і двары.

Сялянскі побыт заставаўся ранейшым: былі жорны, ступы з таўкачамі, у якіх таўклі крупы з ячменю (панцак). У кожнай вёсцы было шмат краўцоў, шаўцоў, бондараў, былі ганчары, бо ўвесь малочны посуд быў з гліны. Гаршкі ўсе былі гліняныя, міскі – таксама, лыжкі драўляныя. Асвятленнем была лучына або капцюшка, пры ёй пралі вечарамі і ткалі па меры магчымасці. Кожная жанчына, акрамя гэтай работы, павінна была ўмець шыць, ткаць і круціць паясы.

У гарадах было шмат беспрацоўных, якія атрымлівалі грашовую дапамогу, а ў вёсках – шмат жабракоў. Зямельныя надзелы ў сялян былі ўсе шнуравыя і за маёй памяцю ўжо дзяліліся не ўздоўж, а ўпоперак кавалкамі, бо ўздоўж атрымліваліся вельмі вузкія, па іх нельга было праехаць з канём.

Польскія вайскоўцы, якія ўдзельнічалі ў вайне за Беларусь, атрымалі лепшыя землі і называліся асаднікамі. Асаднікі не паспявалі апрацоўваць зямлю сваёй сілай і наймалі сялян. Жанчына – маці ў сям'і – мела права толькі на сёмую частку маёмасці, а дзяўчаты – ніякіх праў.

### Так хацела вучыцца, што пайшла па даведку да ксяндза

Вось у гэты час я закончыла польскую сямігодку, вельмі спадзеючыся, што паступлю ў гімназію. Аднак вучоба ў гімназіі каштавала вельмі дорага, і я звярнулася ў Віленскую ўніяцкую, дзе часамі прымалі бясплатна. Але туды бралі каталікоў, а маё праваслаўнае веравызнанне не падыходзіла.

Я звярнулася з просьбай да куранецкага ксяндза, каб ён падрыхтаваў мяне каталічкай. Падрыхтоўка ішла надоўга, бо я добра валодала польскай мовай, і па нейкім часе ён мне выдаў даведку, што я прыняла каталіцкую рэлігію. Даведку я паслала ў гімназію, але мне адказалі, што дзеці сялян маюць апошнія правы.

Я не траціла надзеі. Па лацінскай мове рыхтавалася самастойна, па нямецкай таксама. Але тое, што я належала да падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыі, прымушала мяне сумнявацца. Сумненні мае спраўдзіліся – за намі пачалі сачыць паліцаі. Кожную беларускую пастаноўку – мы іх ставілі часта – наведвала паліцыя. Мы свядома ставілі іх бясплатна, хоць і кватэру для гэтай справы атрымлівалі таксама дарма.

Я працягвала сваю адукацыю, бо не было да каго звярнуцца па дапамогу, усе польскія настаўнікі насцярожана адносіліся да мяне.



Фота з архіва Міхаіла СУДНІКОВІЧА.

Ганна Новік сярод флоксаў.

### У лагеры для беспрацоўнай моладзі

Так мая адукацыя спынілася на 7 класах аж да 1936 года. У 1935 годзе я напісала заяву ў Міністэрства працы аб прыёме мяне куды-небудзь на работу, бо мне вельмі не хацелася вяртацца на падзёншчыну. Мне прыйшлі дакументы, у якіх было накіраванне ў Варшаву ў лагер працы для беспрацоўнай моладзі, і чыгуначны білет.

Так у пачатку 1935 года я апынулася ў Варшаве. Гэты лагер працы ўтрымліваў 200 дзяўчат па розных спецыяльнасцях. Тут была кравецкая майстэрня, шавецкая, трыкатажная, пашывачная, кухня, пральня. У лагеры быў агарод, на якім таксама працавалі дзяўчаты. Быў усяго адзін мужчына – начны вартаўнік.

У лагеры выходзіў часопіс, які называўся "Юнак". Я змяшчала там свае вершы. Беспрацоўе пазнала так, як яно ёсць. Да нашай кухні ў час абеду падыходзілі сотні беспрацоўных бацькоў, дзяцей, чакаючы астаткаў ад нашага стала, і так даволі беднага.

Плацілі нам па пяць злотых у месяц, з іх палову давалі на рукі, а палову клалі на ашчадкніжку, якую выдавалі пры выездзе з лагера. Культасветную работу вялі рэгулярна. Вечары ля вогнішча называліся "акадэміяй". У мужчынскім лагеры, які размяшчаўся ў 30 кіламетрах ад нас, раз у месяц арганізоўваліся танцы, і тады па нас прысылалі машыну.

Толькі кожную нядзелю мы павінны былі хадзіць у касцёл і стаяць там у страі, пакуль ішла імша. Таксама строем мы ішлі туды і вярталіся.

Была вялікая бібліятэка, выпісваліся газеты, часопісы, быў Дом культуры, які звацца "Святліца".

### Арышт

Зіма ў лагеры пачалася з таго, што і да нас завітала беспрацоўе. Не прывезлі матэрыялу ў пашывачную, нітак у трыкатажную. Тое, што вырасла ў агародзе, мы даядалі, і невядома было, што будзе заўтра. За ўвесь год з дому я не атрымала ні аднаго пісьма, а тут раптам прыйшло пісьмо ад бацькі: "Вяртайся дадому, сястра захварэла на эпілепсію". Я ведала, што гэта за хвароба, і ўяўляла сабе сястру хворай і безабаронай.

Да гэтага часу прыехала з міністэрства начальства, сабрала нас на пляцы і аб'явіла, што лагер закрываецца. Так я зноў апынулася дома.

Зімой 1936 года мы зноў актывізаваліся і распачалі падпольную работу: праводзілі агітацыю супраць хутароў, ставілі беларускія п'есы, выпускалі часопіс і праводзілі свае сходы.

Хутка мы даведаліся, што нас збіраюцца арыштаваць. Задумаліся: чакаць нам арышту ці ўцякаць праз мяжу ў Савецкі Саюз. Мы рашылі ўцякаць. 25 чэрвеня 1936 года арганізавалася 12 хлопцаў і я, нанялі праваднікa з Кастык і пайшлі за мяжу. Наша спроба нам не ўдалася, і мы вярнуліся.

На другі дзень на досвітку нас усіх арыштавалі і прывезлі ў куранецкую паліцыю на допыт. Тры дні мяне трымалі на допыце. На сняданне далі мне хлеба і селядца, памясцілі ў асобную камеру, дзе стаяла адна цвёрдая кушэтка. Я паснедала гэтым хлебам з селядцом. Апоўдні мяне пачала стамляць дзікая смага.

Кожны допыт пачынаўся па-свойму. Пыталіся, хто пасылаў за граніцу, з якога месца, з якім заданнем. А так, як мяне ніхто не пасылаў, я не магла нічога сказаць. Я чула праз сцены крыкі хлопцаў, якіх білі, адчувала вінаватасць перад імі.

### Прысудзілі 2 гады і 8 месяцаў зняволення

На трэці дзень арышту мяне прывезлі ў Вілейку ў турму. Зусім знясіленую мяне прывялі ў суд. Прыйшлося доўга чакаць, калі мяне выклічуць. Пажылы паліцэйскі, што сядзеў побач, задрамаў. І мне прыйшла думка ўцячы. Я паднялася і выйшла на вуліцу. Самы блізкі лес – вілейскі могільнік, куды можна было ўцячы. Я прыкінула, што за гэта будзе, што арыштуюць маіх бацькоў, сястру, злоўяць мяне – тады, пэўна, пакаранне павялічаць. Я вярнулася.

Вечарам мяне выклікалі да суддзі. Амаль нічога не пытаючыся, ён напісаў паліцэйскаму запіску і сказаў коратка: "У турму". Я была сёмай жанчынай у былой адзіночнай камеры.

Так пачыналася маё турэмнае жыццё. Аднойчы мяне павялі на допыт. Следчы ўдарыў мяне з размаху па твары. Я не ўтрымалася на нагах і ўпала скроняй на кант стала. Са скроні пацякла кроў. Допыт быў перапынены. Зрэнка майго правага вока схавалася за пераносіцу. Я пачала ім дрэнна бачыць.

Жанчыны з камеры лячылі мяне, як маглі. Цэлы месяц цягнулася следства. Нарэшце быў суд у Крывічах. Я не наймала адваката. Мне прысудзілі два гады і 8 месяцаў зняволення.

**Заканчэнне будзе.**

### КАЛЯНДАР

**4 красавіка.** 100 гадоў з дня нараджэння Алены Мазанік (1914 – 1996), удзельніцы Мінскага патрыятычнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза. Непасрэдная выканаўца знішчэння генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ.

***

**6 красавіка.** 110 гадоў з дня нараджэння Міколы Хведаровіча (сапр. Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч, 1904 – 1981), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

***



**7 красавіка.** 100 гадоў з дня нараджэння Кірылы Мазурава (1914 – 1989), дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Беларусі і СССР. Намагаючыся аднавіць беларусізацыю, у студзені 1959 на святкаванні 40-годдзя БССР зрабіў даклад на беларускай мове, за што быў аблаяны Мікітам Хрушчовым.

***

Сусветны дзень здароўя.

***

**95 гадоў** назад аднавіў сваю дзейнасць Горы-Горацкі земляробчы інстытут (з 1948 года – Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія).

***

**9 красавіка.** 115 гадоў з дня нараджэння Льва Літвінава (сапр. Гурэвіч, 1899 – 1963), беларускага рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**485 гадоў** з часу ўвядзення (1529) Першага Статута Вялікага Княства Літоўскага, збору законаў айчыннага феадальнага права.

***

**465 гадоў** таму назад (1549) мястэчка Радашкавічы ўпершыню ў пісьмовых крыніцах называе горадам.

***

**260 гадоў** таму (1754) на тэрыторыі Старога Мядзела ў парку пабудаваны Станіслаўскі касцёл кармелітаў.

***

**145 гадоў** назад (1869) у вёсцы Пяршаі Валожынскага раёна заснаванае народнае аднакласнае вучылішча.

***

**150 гадоў** таму (1864) заснаваны Валожынскае, Груздаўскае, Гарадзілаўскае (Маладзечанскага), Вязынскае, Ілжскае, Ільянскае, Латыгальскае (Вілейскага раёна), Княгінінскае (Мядзельскага) народныя вучылішчы.

***

**110 гадоў** таму (1904) праз Вілейку прайшла чыгунка Гродна-Пецярбург.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПАМЯЦЬ

# Дзе спалілі людзей, садзяць бульбу

**МАЛАДЗЕЧНА. Чалавек у адной бялізне лез па драбіне, каб стаць на штабель забітых і параненых целаў сваіх блізкіх.**

Па ім стралялі, ён станавіўся адным цэлым са штабелем целаў, а следам ужо наступная ахвяра ступала на яго. Такіх былі тысячы. Потым будынак з целамі падпалілі, далівалі гаручае, варочалі, закопвалі астанкі...

Так забівалі яўрэяў на таку ў мястэчку Краснае ў сакавіку 1943 года.

Пазней на тым месцы пасялілі людзей, якія пасадзілі там бульбу.

Памяць тысяч закатаваных мясцовых яўрэяў дзяржава не ўшанавала помнікам – яго паставілі прадстаўнікі яўрэйскай супольнасці.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

На месцы масавага знішчэння яўрэяў помнік паставілі прадстаўнікі яўрэйскай супольнасці.



Малюнак Зоі ХРУЦКАЙ

Схематычна – дзе жылі яўрэі і дзе іх забілі. Там, дзе пасля вайны паставілі помнік у выглядзе танка, было пажарнае дэпо і рынак.

## Закатавалі сотні чалавек

Увагу грамадства на пытанне ўшанавання памяці яўрэяў звяртае краязнаўца з Краснага **Аляксандр Харытон**. Ён не адзін год прысвяціў таму, каб замучаных падчас вайны яўрэяў ушаноўвалі. Між тым, многія з яго суразмоўцаў упершыню чуюць ад яго, што падчас Другой сусветнай вайны ў Красным было гета.

Сам краязнаўца памятае з дзяцінства, як яўрэяў, ужо распранутых да бялізны, везлі ў той ток. Больш ён даведаўся з расповедаў старэйшых жыхароў, якія бачылі, што адбывалася ў той дзень. І ён хоча расказаць пра гэта іншым, каб памяць пра замучаных людзей не знікла:

– Па цяперашняй вуліцы Набярэжнай, на беразе Ушы ля вадзянога млына стаяў ток. Туды ўсіх яўрэяў звозілі. Іх забівалі, у ток заносілі і складвалі штабялямі целы. Быў такі доктар Гіршоўскі, які занёс туды сваю дачку, потым занёс жонку, потым заносілі яго – іншыя. Вы разумееце? І вось наклалі целаў столькі, што цяжка закідваць ужо наверх, так высока атрымалася. Тады да целаў прыставілі драбіны, змушалі лезці. І людзі лезлі і станавіліся на гэты штабель. Немцы паказвалі, куды стаць, каб быў роўны штабель, а пасля забівалі.

**По адных звестках, там забілі дзве з паловай тысячы чалавек. Па іншых – чатыры тысячы. Сюды сагналі яўрэяў не толькі з Краснага, а і з Ільі, Іўя, Гарадка.**

Пасля ток падпалілі. Прыгадваюць, што енк быў страшэнны, многія ж былі толькі параненыя. Смурод стаяў некалькі тыдняў такі, што ў дамах нават немагчыма было дыхаць.

– Я ўявіў сабе, што мяне таксама гоняць на гэты штабель, – дзеліцца краязнаўца. – Яны ўсе былі ў бялізне. Я ўявіў, што ў штабелі ляжыць мая дзяўчына, і я станаўлюся на яе нагамі, мая матка, бацька, сястра, суседка. І мяне, яшчэ жывога, заганяюць на іх. Калі ток згарэў, на гэта было страшна глядзець: абгарэлыя целы, галовы... І потым гэты штабель дапальвалі. Дзяржава не паставіла там ніводнага мемарыяльнага знака. На месцы тока пасялілі людзей, якія пасадзілі тут бульбу: "Гэта ж жыды".

## Шасціканцовую зорку замянілі пяціканцовай

Помнік на тым месцы паставіла яўрэйская супольнасць: спачатку метровую пірамідку, а пасля яе замянілі на гранітны помнік (на фота). Спачатку зверху гэтага помніка была шасціканцовая зорка. Пра гэта ў кніжцы "Таямніцы Краснага" ўзгадвае аўтар кнігі супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Сяргей Старыкевіч**. Краязнаўца дадае, што шасціканцовую зорку спілавалі, а паставілі пяціканцовую.

На гэта месца прыязджаў ізраільскі маёр **Сямён Грынгаўз**, які і дамогся, каб паставіць сучасны помнік. У дзяцінстве ён цудам уратаваўся ад знішчэння на таку: за два дні да трагедыі разам з маці пайшоў у суседнюю вёску шукаць, што паесці. А вярнуўся праз некалькі дзесяцігоддзяў і на адкрыццё помніка прывёз знакамітага рэжысёра **Стывена Спілберга**, каб зняў на гэту тэму фільм.

## Што значаць яўрэі для Краснага

– Па вуліцы каля цяперашняга помніка танку стаялі дамы яўрэяў, – распавядае Аляксандр Харытон. – Гэта была зона іх кампактнага пражывання (глядзіце схему на карце). Фактычна, Краснае канчалася царквой. Вуліцы называліся Радашкавіцкая, Ільянская, Маладзечанская – па накірунках. Дамы былі драўляныя і часта гарэлі. Красненцы палічылі месца нядобрым і з'ехалі далей, да Плябані.

І тады, я думаю, сюды масава пачалі засяляцца яўрэі, а непадалёк паставілі пажарнае дэпо, якім валодаў яўрэй. На чарзе мужыкі са сваімі конямі там дзяжурылі. І з таго часу, а гэта быў пачатак 20 стагоддзя, пажараў у Красным не было. Каля дэпо з'явілася рынкавая плошча, дзе шточацвер збіраліся. І апошні пажар быў у 1944 годзе, калі ўсё Краснае спалілі. Тут, уздоўж вуліц 17 Верасня і Набярэжнай, было іх гета, і сюды прасіцца таксама памятны знак.

## Падзялілася гарохам пад страхам смерці

Аляксандр Харытон зацікавіўся краязнаўствам на пенсіі, калі вярнуўся ў бацькоўскую хату з Мінска. І першае, што яго зачапіла, – менавіта недастатковае ўшанаванне памяці яўрэяў, якія загінулі падчас вайны ў Красным. Ён тлумачыць:

– У маладзечанскай кнізе "Памяць" ёсць вытрымкі, колькі замучылі і знішчылі мясцовых жыхароў у той ці іншай вёсцы – тры, пяць, 17 чалавек. А тут жа тысячы спалілі на таку, а дзяржава пра іх памяць маўчыць. Гэта ж мясцовыя жыхары! Гэта такія ж красненцы! Яны па-беларуску размаўлялі!

Краязнаўца тлумачыць, адкуль у яго такая зацікаўленасць яўрэйскай тэмай:

– Я вучыўся ў школе, са мной вучылася дзяўчынка з ацалелых яўрэяў. На флоце разам са мной служылі яўрэі. Разам са мной яўрэі вучыліся ў інстытуце, я працаваў у адным праектным аддзеле з яўрэямі. І я неабыякавы да іх.

Прыгадваю такі эпізод з дзяцінства. Яўрэям падчас акупацыі не дазвалялі хадзіць па адным, адразу забівалі. Мы вельмі бедна жылі. Неяк вечарам маці пражыла гарох – смажыла са шмальцам. І тут заскоквае ў хату яўрэй – адразу ў кут. І плача, а пах ад гароху ідзе. І маці стаіць, плача. Яна драўлянай лыжкай прынесла гарох, перасыпала ў рукі, а ён гарачы, яўрэй душыцца гэтым гарачым гарохам...

Вайна ж. Калі б немцы ўбачылі, спачатку б яго ля ганку паклалі, а маглі вывесці і мяне з бацькамі і таксама пакласці. Але мы паставіліся адзін да аднаго палюдску ў фашысцкай акупацыі. Чаму цяпер, пасля вайны, мы па-людску не ўшануем іх памяць, а топчам прах і садзім бульбу там, дзе іх закатавалі? Вялікая дзяржава не абараніла іх жыцці, і вялікая дзяржава не ўшанавала іх памяць.

**Зоя ХРУЦКАЯ, "Рэгіянальная газета". Кацярына КАСЦЕВІЧ, школа маладога журналіста пры "РГ".**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Помнікаў каму не хапае?

**Марына Чараповіч, ліцэйшчыца пластмасы:**



– Хутчэй за ўсё, не хапае помніка Янку Купалу. Помнікі усталёўваюць за вялікую працу для народа, а ў яго яна вельмі вялікая.

**Анжаліка Сюрха, навучэнка медыцынскага каледжа:**



– Хацела б бачыць у Маладзечне помнік Еўфрасінні Полацкай, каб пра яе ведалі не толькі з кніжак гісторыі.

**Анжэла Тарасевіч, афіцыянт:**



– Вядома, Якубу Коласу, каб яго ведала не толькі старэйшае, але і маладое пакаленне.

**Міхаіл Баранаў, пенсіянер:**



– Даўно мару ўбачыць менавіта ў Маладзечне помнік Аляксандру Лукашэнку за тое, што ён зрабіў. За прыгожы парк, а галоўнае, за ўклад у развіцці краіны – вось за гэта, лічу, ужо можна ставіць помнік.

**Ганна Петрашкевіч, работніца паркетнай фабрыкі:**



– Больш хацела б бачыць помнік гістарычнай асобе, чым палітычнай.

**Віліс Н., былы фотакарэспандэнт:**



– Хацеў бы бачыць помнік Герою Савецкага Саюза Ларыну. Калі чалавек зрабіў вельмі шмат карыснага для горада і ўвогуле, то ён ужо і заслугоўвае помніка.

**Алена Суман, прадавец:**



– На мой погляд, у Маладзечне не хапае помніка Пушкіну, трэба, каб ведалі і не забывалі такіх асоб.

*Падрыхтаваў Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школа маладых журналістаў пры рэдакцыі "РГ".*

● ЗДАРОЎЕ

# Слухаўкі ў маладосці – слыхавы апарат у старасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Слухаўкі, або навушнікі сёння – як другая пара вушэй. Аднак што хаваецца за гэтай сучаснай моднай гарнітурай? Якія наступствы яна за сабой цягне, колькі вымагае грошай і ці ёсць ад яе хоць нейкая карысць.**

Шуму вакол нас становіцца ўсё больш. Але, не шкадуючы слых, мы часам яшчэ і самі бяром слухаўкі і гучна ўключаем музыку.

Максімальна дапушчальная для слыху чалавека гучнасць – 90 дэцыбел. Гэта адначасова і самая вялікая гучнасць музыкі ў слухаўках. Калі на гэта не зважаць, то можна вельмі хутка развіць глухаватасць з-за вялікай нагрузкі на слыхавы орган.

## Гучная музыка – прычына звону ў вушах

– Высокая гучнасць можа стаць прычынай галавакружэння і звону ў вушах, – папярэджвае оталарынголаг паліклінікі №3 **Людміла Гамолка**. – Аднак на гэта моладзь не звяртае ўвагу. Толькі адзінкі прыходзяць са скаргамі на слых, а праблемы астатніх выяўляюць на прафілактычных аглядах.

Для дзевяцікласніцы **Лізаветы Высоцкай** слухаўкі ўвогуле сталі часткай жыцця.

– Музыку толькі ў іх і слухаю, – распавядае дзяўчына. – Еду да бабулі ў Краснае – у слухаўках. У школу без іх нават і не выходжу, у аўтобусе – толькі ў іх. Нават малюю ў слухаўках, час ад часу ад прыгожай песні натхненне прыходзіць. Парады дактароў чула не раз, але да сябе іх не адношу. Слухаўкі – гэта модна. А моды трэба прытрымлівацца, каб не адставаць ад сучаснасці.



Крысціна Бадрыцкая, якая жыве ў Лебедзеве, карыстаецца вялікімі слухаўкамі, бо зручна і вушы не мерзнуць.

Фота Алеся ДЗЯМІДЧЫКА.

## Якія слухаўкі найбольш шкодныя

Ёсць такія, якія ўстаўляюцца глыбока ў вушы. Іх гук нашмат больш якасны, чым у вялікіх, якія чапляюцца на галаву, таму што яго не забіваюць старонніх шумы. Але менавіта такія найбольш шкодныя для нашага слыху.

– Даўжыня слыхавога праходу прыкладна 2,5 сантыметра. Падача гуку на такой адлегласці вельмі шкодная, бо ён з'яўляецца раздражняльнікам, што і вядзе да глухаты. Калі мы проста размаўляем ці штосьці чуем, адлегласць значна большая ад крыніцы гуку да барабаннай перапонкі. Гэта звычайны стан слыху, – распавядае Людміла Гамолка.

Калі хтосьці не можа без музыкі ў вушах, доктарка раіць проста змяншыць гучнасць да 20–40 дэцыбел. Слухаўкі – добрае вынаходства, але калі ўвесь час імі карыстацца, яны будуць негатыўна ўздзейнічаць на наш арганізм.

Таму часам, можа, усё ж варта адмовіцца ад іх, аддаўшы час іншаму расслабленню альбо проста ўспамінам аб прыемных момантах.

– Слухаўкі прылада добрая, але ў выключных выпадках, – лічыць навучэнка музкаледжа **Ірына Макарэвіч**. – Я імі карыстаюся вельмі рэдка, калі трэба паслухаць музыку па музычнай літаратуры, каб не перашкаджаць тым, хто побач. Чаму? Па-першае, псуецца слых. А па-другое, на дарозе ці чыгунцы можна не пачуць гукавыя сігналы і трапіць у аварыю.

Кошт такой прылады сёння вагаецца ад 25 да 500 тысяч рублёў. І кожны сам выбірае, колькі грошай аддаць за сапсаваны слых, калі слухаўкі для яго – штодзённы бесперапынны 90-дэцыбельны канцэрт.

**Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школа маладога журналіста пры рэдакцыі "РГ".**

● ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Вадалаз з Маладзечна перамог у фотаконкурсе

**МАЛАДЗЕЧНА. Выратавальнік Павел Стужынскі стаў лепшым у фотаконкурсе " У кадры – вадалазная справа".**

– Фотаздымак рабіў я, на фота іншы вадалаз, але калі я пагружаўся ў ваду, то бачыў сівуча на адлегласці выцягнутай рукі. Яны вельмі цікаўныя і зусім не баяцца людзей.

Там, на Камчатцы, ёсць астравок, куда сівучы забіраюцца пагрэцца. Туды збіраецца ўвесь горад, каб паздымаць і проста палюбавацца на гэтых вялікіх, бліскучых і ленавитых істотаў.

За перамогу ў конкурсе Павел атрымаў планшэтны камп'ютар.

**Наталля ТУР.**

● СВЯТЫ

# Міліцыю з 75-годдзем павіншуюць алеяй

**Сёлета міліцыя Мінскай вобласці святкуе 75-годдзе.**

Кіраўніцтва УУС Мінаблвыканкама вырашыла адсвяткаваць дату пасадкай алеі. Месцам абралі Маладзечна.

– Наш горад – негалосная сталіца Мінскай вобласці, – тлумачыць выбар намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў**. – Ва ўсялякім разе, у нашым, міліцэйскім асяроддзі. Напрыклад, у маладзечанскім лядовым палацы ўвогуле прайшоў афіцэрскі баль, калі супрацоўнікі розных сілавых структур са сваімі жонкамі танцавалі вальс.

## Дзе высадзяць алею

Пакуль што ёсць тры магчымыя месцы:

1. На ўездзе ў горад з боку Мінска
2. Па вуліцы Маркава, там, дзе знаходзіцца брацкая магіла
3. У парку Перамогі.

Пакуль гэта яшчэ вырашаецца.

Што саджаць на алеі і якой працягласцю яе рабіць, будуць вырашаць, калі вызначаць месца. Будуць раіцца з зялянгасам і ў залежнасці ад глебы падбіраць дрэвы, якія прыжывуцца.

Пачынаць высаджваць алею пачнуць ужо літаральна на бліжэйшых суботніках.

**Аддзел інфармацыі.**

● НАВІНЫ

# У Мінску праходзіць выстава да 200-годдзя Гашкевіча

**МІНСК, АСТРАВЕЦ**. Выстава "Іосіф Гашкевіч – дыпламат, вучоны-арыенталіст" з 20 сакавіка пачалася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Прысвечаная яна 200-годдзю з дня нараджэння славутага земляка. У адкрыцці выставы ўдзельнічаў пасол Японіі ў Беларусі **Сігэхіра Міморы.**

Іосіф Гашкевіч – ураджэнец Беларусі, дыпламат, мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст, першы расійскі консул у Японіі, аўтар першага японска-рускага слоўніка.

Па вяртанні з Японіі ён служыў у Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў Расіі, а ў 1867 годзе вярнуўся ў Беларусь, набыў маёнтак Малі на Астравеччыне. Тут працаваў над кнігай "Аб каранях японскай мовы", якая была выдадзена пасля яго смерці. У вёсцы Малі ў яго гонар усталяваны памятны знак, у Астраўцы – бюст.

Згодна з рашэннем 37-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, двухсотгадовы юбілей з дня нараджэння Гашкевіча афіцыйна ўключаны ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА на 2014-2015 гады.

**Аддзел інфармацыі.**

# Дашкольнік з Маладзечна пра гузікі ведае ўсё

**МАЛАДЗЕЧНА.** IV фестываль даследчых работ дзяцей дашкольнага ўзросту "Я - даследчык" адбыўся 29 сакавіка ў Мінску.

Выхаванец яслаўсада №5 шасцігадовы **Мікіта Герасімюк** прадставіў на фестывалі сваю даследчую працу "Другое жыццё гузіка".

Мікіта распавёў членам журы аб праведзенай ім і яго сябрамі з групы рабоце, адказаў на ўсе пытанні і нават здзівіў дарослых некаторай інфармацыяй:

– А ці ведаеце вы, чаму Пётр І загадаў прышываць гузікі да рукавоў салдацкіх мундзіраў?

– Аказваецца, для таго, каб пасля ежы яны не выціралі рукавамі рот і нос!

**Аддзел інфармацыі.**

 



ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Юны плывец з Маладзечна "пераплыў" 12 краін

**МАЛАДЗЕЧНА. Аляксандру Галоўскаму – 15 год. Займаецца плаваннем больш за 4 гадзіны штодзённа, перамагае на міжнародных спаборніцтвах і паралельна ставіць рэкорды ў музеі БМВ. Але больш за ўсё ганарыцца медалём, які заваяваў у Пінску.**


Фота Наталлі ТУР.

Аляксандр Галоўскі ненадоўга завітаў у Маладзечна. Пасля спаборніцтваў у Мюнхене і Пінску Аляксандр едзе ў Брэст.

– Проста да старту ў Пінску я рыхтаваўся цэлы год, гэта быў галоўны старт гэтага года. І я вельмі задаволены тым, што перамог.

**– А першы старт, першую перамогу памятаеш?**

– Я нават і першы дзень у плаванні памятаю. 10 сакавіка, роўна 5 гадоў таму, пасля заняткаў у басейне ў 14 школе, дзе я тады вучыўся, мяне паказалі маім трэнерам, сказалі, што ў мяне ёсць здольнасці. Вось з таго дня іншага лёсу сабе не ўяўляю. А першы мой п'едэстал быў у Вілейцы. Тады я стаў трэцім у стылі брасам на 50 метраў. Як такое забудзеш?

**– Плаванне шмат часу забірае?**

– Дзве трэніроўкі па дзве гадзіны штодзённа. Гэта мінімум. Больш ні на што часу не застаецца. Я прыходжу з басейна і адразу кладуся спаць.

**– А вучоба? Плаванне вучобе не перашкаджае?**

– Вучоба перашкаджае плаванню. Я вучуся ў школе алімпійскага рэзерву, выкладчыкі разумеюць, канешне, што мы ўсе спартсмены, што ў нас спаборніцтвы. Бывае, я месяцамі ў горадзе не бываю. Вось з Мюнхена я адразу паехаў у Пінск, праз тыдзень зноў на спаборніцтвы ў Брэст.

**– Раскажы пра спаборніцтвы ў Германіі, гэта першая паездка за мяжу?**

– Не першая, да гэтага ездзіў у Польшчу. Спаборніцтвы называліся HEAD trophy cup. Гэта даволі вядомыя спаборніцтвы ў Германіі. У ім удзельнічалі 174 спартсмены з 12 краін. У сваёй узроставай групе я перамог. А сярод усіх узростаў увайшоў у фінал. А гэта восем мацнейшых спартсменаў з 174. Нас у фінале было сем немцаў і я. Я тут заняў шостае месца. Цяжка перамагаць, калі ты спаборнічаеш з самім Маркусам Дэблерам, вельмі знакамітым нямецкім плыўцом.

**– Чым адрозніваюцца еўрапейскія школы плавання ад беларускіх?**

– Мяне здзівіла, што еўрапейскія школы (і італьянская, і нямецкая, і партугальская) накіраваныя больш на дарослых спартсменаў. Яны юніёрам надаюць менш увагі. Самаму малодшаму спартсмену там было 20 гадоў, а мне толькі 15. Можа, таму ў нас вынікі не вельмі, што беларусы з дзяцінства прывучаныя працаваць як дарослыя? А яшчэ там у басейне вельмі халодная вада. Я сёння першы раз за доўгі час прыйшоў на трэніроўку ў наш гарадскі басейн, і мне тут горача. У нашым басейне вада неспартыўная.

**– Ты сказаў, што паставіў рэкорд у музеі БМВ. Як гэта?**

– Нічога звышнатуральнага. У Мюнхене мы з сябрам паміж заплывамі пайшлі ў музей. Там ёсць спецыяльны трэнажор-машынка. Садзішся ў яе і на віртуальнай трасе збіраеш бонусы. Калі парушаеш правілы, бонусы адбіраюцца. Вось там я і паставіў рэкорд дня.

**– Не згубіліся ў Мюнхене, не валодаючы мовай?**

– Размаўлялі на ламаной англійскай мове. У прынцыпе, нас разумелі.

**– А ў плаванні якія рэкорды ставіш?**

– Я пакуль далёка не загадваю. Я і так у свае 15 уваходжу ў Нацыянальную зборную. У наступным годзе буду адбірацца на чэмпіянат Еўропы. Летам, калі пашанцуе, стану майстрам спорту. Мае трэнеры **Людміла Гілевіч і Алена Руткоўская** вучаць мяне быць сабранымі: і перад стартам, і ў спорце ўвогуле. Таму ўсё ідзе сваёй чаргой.

**Наталля ТУР.**

СПАРТАКІЯДЫ

## Спаборнічалі каманды саветаў

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 29 сакавіка, прайшла спартакіяда "Здароўе" паміж сельскімі саветамі. У Мядзел прыехала дзевяць каманд.**

Спаборніцтвы праходзілі ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры і сярэдняй школе №2 горада. Каманды выяўлялі лепшых у настольным тэнісе, узняцці гіры, дартсе, більярдзе, стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, шашках, міні-футболе. Спаборніцтвы доўжыліся больш за пяць гадзін.

У двух відах перамагла прадстаўніца Княгінінскага савета **Алена Комар**: у дартсе і настольным тэнісе. У мужчын у дартсе лепшым быў **Віктар Каравацкі**, у настольным тэнісе – **Іван Шпакоўскі** (абодва – Нарацкі савет).

У шашках першыя месцы занялі **Таццяна Сімончык** (Нарацкі савет) і **Леанід Жыхар** (Слабодскі). Ва ўзніманні гіры у сваіх вагавых катэгорыях перамаглі **Сяргей Багуцкі** (Свірскі савет) і **Віталь Камянецкі** (Свірскі). У більярдзе лепшым стаў **Генадзь Пятроўскі**, у стральбе – **Дзмітры Ахрановіч** (абодва прадстаўлялі Свірскі савет).

У міні-футболе упэўненую перамогу атрымала каманда Нарацкага савета. Яна выйграла ўсе матчы, а ў фінале перамагла футбалістаў са Свіры з лікам 12:1.

У агульным заліку першае месца занялі прадстаўнікі Свірскага савета. На другім месцы – Нарацкі, на трэцім – Княгінінскі саветы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## Дзве перамогі і адна параза "Смаргоні"

**СМАРГОНЬ.** Тры таварыскія сустрэчы правёў футбольны клуб "Смаргонь" напрыканцы сакавіка. 19 сакавіка ў Ашмянах смаргонцы абыгралі "Іслач" 2:0, паведамляе fc-smorgon.by. Галы забілі **Аляксандр Сямёнаў** і **Павел Баскакаў**.

У Мінску 22 сакавіка ФК "Смаргонь" прайграў 0:3 "Бярозе-2010". А праз тыдзень смаргонскія футбалісты выйгралі ў клуба "Мінск-2" з лікам 1:0. Вызначыўся **Юры Мархель**.

## Выніковая табліца першынства Мядзельскага раёна па міні-футболе 2013 – 2014 гадоў

| месца | каманда | гульняў | в | н | п | галы | розніца | ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Мядзел | 12 | 12 | - | 0 | 103:26 | +76 | 36 |
| 2 | Зубраня | 12 | 10 | 1 | 1 | 78:26 | +52 | 31 |
| 3 | Аддзел адукацыі, спорту і турызму | 12 | 10 | - | 2 | 78:29 | +49 | 30 |
| 4 | РАУС | 12 | 7 | 2 | 3 | 55:47 | +8 | 23 |
| 5 | РАНС | 12 | 7 | - | 5 | 45:34 | +11 | 21 |
| 6 | СДЮШАР | 12 | 6 | - | 6 | 57:46 | +11 | 18 |
| 7 | Нарач | 12 | 5 | 2 | 5 | 48:50 | -2 | 17 |
| 8 | ІП | 12 | 5 | 1 | 6 | 40:52 | -12 | 16 |
| 9 | ПМС | 12 | 4 | 2 | 6 | 44:62 | -18 | 14 |
| 10 | Райваенкамат | 12 | 3 | 1 | 8 | 36:67 | -31 | 10 |
| 11 | Крывічы | 12 | 3 | 1 | 8 | 28:70 | -42 | 10 |
| 12 | Юніёр | 12 | 1 | - | 11 | 31:65 | -34 | 3 |
| 13 | ЖКГ | 12 | - | - | 12 | - | - | 0 |
| 14 | Паставы | па-за конкурсам | | | | | | |

СПАБОРНІЦТВЫ

# Юныя спартсмены ўдзельнічалі ў спаборніцтвах па ратаванні на водах

**25 сакавіка ў Крупскім раёне прайшло адкрытае першынство Мінскай вобласці па выратаванні на водах і плаванні брасам. У спаборніцтвах прынялі ўдзел каманды з Маладзечна і Вілейкі.**

Каманду Маладзечанскага раёна прадстаўлялі **Уладзіслаў Валовік, Яўген Тайкевіч, Уладзіслаў Штыроў, Руслан Кушаль, Анатоль Тарасевіч, Глеб Весялоў, Барыс Весялоў**, трэнер каманды **Ігар Дземідовіч.** У асабовым заліку ў спаборніцтве па плаванні брасам першае месца заняў Анатоль Тарасевіч, вучань сярэдняй школы №11. Каманда Маладзечанскага раёна ў агульным заліку заняла 3-е месца. Першынство праводзіцца з мэтай папулярызацыі прафесіі выратавальніка-пажарнага, развіцця ў падлеткаў навыкаў і ўменняў аказання дапамогі тапельцам, далейшага павышэння спартыўнага майстэрства, выяўлення наймацнейшых спартсменаў для камплектавання зборнай каманды Мінскай вобласці.

Каманда Вілейскага раёна складалася з пяці чалавек.

– У падобных спаборніцтвах наша каманда ўдзельнічае трэці год, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**. – І гэтым разам выступілі найлепей.

Лепшыя вынікі вілейчане паказалі ў этапе "выратаванне на водах". У асабовым заліку **Сяргей Трусевіч** быў першым, а **Яўген Маліноўскі** – трэцім. У выніку ў камандным заліку на гэтым этапе вілейчане перамаглі.

У плаванні брасам **Аляксей Смолік** заняў трэцяе месца.

**Ксенія ЦІМАФЕЕВА, Інспектар Маладзечанскага ГРАНС.**


Фота забяспечана Ксеніяй ЦІМАФЕЕВАЙ.

Маладзечанец Анатоль Тарасевіч прымае ўзнагароду і віншаванні ад начальніка цэнтра прапаганды і навучання Мінскага абласнога ўпраўлення Валерыя Вайцяховіча.



 

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Вызначылі галоўныя экалагічныя праблемы Вілейшчыны**

Галоўнае ўсё ж пытанне па Пляснянцы – аднаўленне і змест водаахоўнай прыбярэжнай паласы ў 50 м. Многія захапілі зямлю, паставілі платы прама на беразе, разараныя агароды. Парушэнні Зямельнага і Воднага кодэкса відавочныя. Калі адпаведныя службы яшчэ не афармілі парушальнікам зямлю ў прыватную ўласнасць, трэба спыніць самазахоп тэрыторый. Давайце на водаахоўнай прыбярэжнай паласе Пляснянкі пасадзім дубовы лес. Для нашчадкаў. Назавём яго Рэгіянальным гаем. ***Каморнік.***

**Дырэктар ФСК "Маладзечна-2013": заяўка сёння будзе адкліканая**

Нешта не так стала ў Маладзечна са спортам. Ні моцы, ні розуму. Нават няма заяўкі на чэмпіянат раёна па шахматах – тут ужо ніякіх не трэба знаходзіць грошай, хіба на ганаровую грамату, і то не змаглі арганізаваць. Можа, гэта проста не трэба чыноўнікам, абы ціха? ***Яўген.***

**Вілейскія краязнаўцы вучылі маладзечанцаў, як даць жыццё замчышчу**

Можна паспець зрабіць гашэнне паштовак з нагоды святкавання 250-годдзя з дня нараджэння Агінскага, таксама выпусціць юбілейную паштоўку і марку, нават манету. Арганізаваць міжнародны вела (аўта) прабег па месцах, звязаных з жыццём Клеафаса. Калі талакой, то маладзечанскія і вілейскія краязнаўцы, члены БРСМ, скаўты, музыкі, турысты нават без бульдозера змогуць зрабіць з'езд з дарогі і нават экалагічную сцежку да замчышча абы падвезлі ПГС. Толькі патрэбен такі апантаны дзеяч-рухавік, які быў Кастэнка. ***Tutojsh.***

**Вязынкаўцы пагукалі вясну**

Было добрае вельмі мерапрыемства. Усім раю, мы наступным разам паедзем яшчэ больш разнастайнай кампаніяй. ***Alina.***

## ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Ці вераць беларусы ў існаванне кармы?

| | |
|---|---|
| 45%: | Беларусы толькі і робяць, што вераць ва ўсё і ўсім |
| 20% | Беларусы ўжо ні ўва што не вераць |
| 15%: | Гэта адзінае, што робіць жыццё асэнсаваным |
| 10%: | Калі б верылі, так бы не жылі |
| 10%: | Для беларусаў гэта чужое |

Усяго галасоў 20

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | 9 | 5 | 2 | | |
| | | | | | | | 9 | 8 |
| | | 7 | | | 8 | 5 | | |
| | 6 | | 3 | | 2 | | | |
| | 3 | | | 8 | | | 4 | |
| | | | 4 | | 9 | | 3 | |
| | | 2 | 1 | | | 9 | | |
| 5 | 7 | | | | | | | |
| | | 9 | 8 | 6 | | 3 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталі ТУР.

**На Цэнтральнай плошчы дзе-нідзе прасела плітка. Рабочыя "Камунальніка" выпраўляюць гэта, каб плошча была прыгожая і, галоўнае, роўная.**

## РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Фантастычны баявік, прыгоды "**Першы мсціўца: Другая вайна**", 3D (ЗША, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
4 красавіка – у 21:00
5 красавіка – у 19:00, 21:30
6 красавіка – у 18:30, 21:00
7 красавіка – у 21:00
8, 9 красавіка – у 18:30
10 красавіка – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

Драма, прыгоды "**Ной**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
4 красавіка – у 18:30
5 красавіка – у 16:30
7 красавіка – у 18:30
8, 9 красавіка – у 21:00
10 красавіка – у 18:30
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Крымінальны экшн "**Need for Speed: Прага хуткасці**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
5 красавіка – у 14:00
6 красавіка – у 16:00
9 красавіка – у 16:00
10 красавіка – у 18:30
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Фэнтэзі, камедыя "**Кіндарвілейскі прывід**" (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5 красавіка – у 12:00
6 красавіка – у 14:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Прыгоды містэра Пібадзі і Шэрмана**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
6 красавіка – у 12:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Эпічны экшн "**300 спартанцаў: Росквіт імперыі**", 3D (ЗША,2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
4 красавіка – у 16:00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фэнтэзі, камедыя "**Кіндарвілейскі прывід**" (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
4, 5 красавіка – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Камедыя "**Горка!**" (Расія, 2013, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
4, 5 красавіка – у 17:30
6 красавіка – у 19:30
7-9 красавіка – у 21:30
10 красавіка – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Небяспечная спакуса**" (Мексіка, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
4, 5 красавіка – у 19:30, 21:30
6 красавіка – у 17:30, 21:30
8, 9 красавіка – у 19:30
10 красавіка – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Аблом OFF**" (драма ў 2-х дзеях), *Міхаіл Угараў*
5 красавіка – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
8 красавіка – у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
9 красавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
11 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Шматкі па закавулачках**" (жыццёвая гісторыя), *Р.Осцер*
6 красавіка – у 12:00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП (4-10 КРАСАВІКА)



**Авен.** Пры вырашэнні важных пытанняў не спяшайцеся, бо над якім бы вы пытаннем ні ламалі галаву, памятайце: першае рашэнне, якое здаецца відавочна правільным, на самой справе будзе памылковым. Таму абдумайце сітуацыю, прыміце да ведама дробныя дэталі.



**Цялец.** Займіцеся знешнім выглядам, творчасцю, домам, абнаўленнем абстаноўкі. Пераканайцеся ў правільнасці выбранага шляху.



**Блізняты.** Вялікае задавальненне і душэўны пад'ём прынясе час, праведзены з дзецьмі. Да таго ж вы адчуеце прылііў сіл і энергіі, таму плёнка папрацуеце і паспееце нашмат больш, чым звычайна.



**Рак.** Не дазваляйце пабочным асобам умешвацца ў ваша жыццё, бо іх добрыя парады могуць прывесці да плаксівых вынікаў.



**Леў.** Вам будзе здавацца, што ў вас выраслі крылы. А ў душы расцвіце букет яркіх пачуццяў.



**Дзева.** Перш чым выказваць сваё меркаванне, варта добра прадумаць словы, якія вы збіраецеся сказаць. Крытычныя выказванні варта трымаць пры сабе. Не забывайцеся весці здаровы лад жыцця.



**Шалі.** Будзьце да сябе больш паблажлівыя, не патрабуйце ад сябе шмат. Пры адстойванні сваіх інтарэсаў праявіце настойлівасць. Паспрабуйце выхадныя прысвяціць толькі сабе.



**Скарпіён.** Усё, што будзе адбывацца ў гэты перыяд, звязанае з жанчынай-Шалямі. Можа, яна стане для вас нейкім талісманам.



**Стралец.** Пачатак тыдня не на жарт можа сапсаваць вам настрой. Але не засмучайцеся надоўга, таму што далей усё будзе складвацца як найлепш.



**Казярог.** Не будзьце такія запальчывыя і нецярплівыя, бо гэта не садзейнічае ўзаемаразуменню ні з калегамі, ні з блізкімі. Добра яшчэ, што вас здаровы розум утрымлівае ад неабдуманых учынкаў.



**Вадалей.** Ва ўласным жыцці займіце актыўную пазіцыю і перастаньце чакаць ля мора пагоды.



**Рыбы.** Успомніце пра мінулыя грандыёзныя планы і паспрабуйце зноў увасобіць іх у жыццё. У любую справу дадавайце разлік і не дазваляйце нікому ўмешвацца ў ваша ўласнае жыццё.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень



## НАДВОР'Е

**5 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +6 | | -3 / +8 | | +1 / +12 | | +6 / +11 | |
| | 740 | ↓ 5 | 748 | → 5 | 740 | ↗ 10 | 735 | → 4 |
| Вільня | -1 / +6 | | -4 / +8 | | +1 / +12 | | +6 / +12 | |
| | 750 | ↓ 5 | 756 | ↗ 5 | 747 | ↗ 9 | 743 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.33
Захад 19.56
Даўжыня дня 11.23

Усход 9.53
Захад 1.24
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- У беларусаў-каталікоў – дзень Арыны, Ірыны ("На Арыну сей капусту ў расадніках").
- 7 красавіка. Благавешчанне. Ноч на Благавешчанне цёплая – вясна будзе такая ж.

## Чытайце праз тыдзень:

**Колькі песень у рэпертуары Вілейскага народнага хору ветэранаў вайны і працы, які нядаўна адзначыў 25-годдзе?**

### А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Свінні могуць загараць.

* Ад смеху можна памерці.

* Пры пакаёвай тэмпературы звычайная малекула перамяшчаецца з хуткасцю кулі.

* 41% Месяца ніколі не відаць з Зямлі.



### ВЫСТАВЫ

## Першая сусветная на амерыканскіх плакатах







**Выстава "Першая сусветная вайна ў амерыканскіх кнігах, кіно і музыцы" працуе ад 3 да 29 красавіка ў маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. На выставе можна ўбачыць амерыканскія плакаты, створаныя падчас вайны.**

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯСТЭЧКУ КРАСНАЕ

## Якія цікавыя і прыгожыя месцы ёсць у Красным?



**Клаўдзія Манькоўская, дырэктар Красненскай СШ:**

– Вельмі прыгожа ля возера. Таксама незвычайна прыгожая крынічка Багдановіча, але гэта ў нашай суседкі – Ракуцёўшчыне. Яшчэ прыгожы Сніткаў лес, што пачынаецца ад вуліцы Станцыйнай. Вельмі хораша пахадзіць па ім, падыхаць свежым паветрам.



**Яўгенія Шумская, пенсіянерка:**

– Царква ў нас прыгожая, летам прыгожа ля рэчкі, на лузе вельмі добра. Красненскі кансервавы завод ёсць.



**Марыя Міронсчык, настаўніца гісторыі:**

– Цікавых і прыгожых месцін у нас нямала. Шмат з іх звязаныя з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны: помнік роце Кіяшкі, помнік загінулым землякам, брацкая магіла яўрэям. А яшчэ ёсць помнік, як ехаць на Маладзечна, загінулым у канцлагеры. Цікавыя і наша школа, Дом культуры, кансервавы завод.



**Вольга Дземыдзенка, прыбіральшчыца ў Красненскай школе:**

– Цікавае месца – музей Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыне. Вельмі прыгожае возера наша. Яшчэ там, ля возера, стаіць помнік у гонар лётчыкаў. У вайсковай часці цікава, летам прыгожа. Там помнік Карбышаву стаіць.



**Кацярына Францкевіч, дзяжурная ў гасцініцы ў Мінску:**

– У нас вельмі прыгожы касцёл. А яшчэ прыгожы луг, асабліва летам. Цераз луг цячэ рэчка, там часам бачыла качак. Возера вялікае і таксама прыгожае. У ім плаваюць лебедзі, качкі.



**Іван Юргевіч, пенсіянер:**

– Краснае вельмі прыгожае само па сабе. Касцёл, высокі такі, старадаўні. Царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы таксама даўняя і прыгожая. Дом культуры ёсць. Сельсавет наш які прыгожы і ахайны. Прыемна паглядзець.



**Аляксандар Сямёнаў, машыніст-аператар:**

– Я лічу сапраўдным багаццем касцёл і Напалеонаўскую гару. Гэта гара, што за пераездам. Там некалі праходзіла французская армія.

**Падрыхтавала Кацярына КАСЦЕВІЧ, школа маладога журналіста пры рэдакцыі "РГ".**

Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 14 (988) 4.04.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 305. Падпісана ў друк у 10.00 3.04.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.